



# Рэгіянальная газета

11 студзеня 2013 года
№ 2 (924)

Тэлетыдзень

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".


Вяз, з вышыні якога бачныя адразу тры гарады – Маладзечна, Вілейка і Смаргонь.

21-я старонка

У ЗАГСе цяпер можна і разводзіцца. Як гэта адбываецца?

5-я старонка



**навіны рэгіёна**

## Праезд на прыгарадных цягніках падаражэў на 17%

| Цягнік | Стала | Было |
|---|---|---|
| Маладзечна - Мінск | 5 740 руб. | 4 920 руб. |
| Маладзечна - Вілейка | 2 030 руб. | 1 740 руб. |
| Маладзечна - Смаргонь | 2 940 руб. | 2 520 руб. |
| Маладзечна - Гудагай | 5 320 руб. | 4 560 руб. |
| Маладзечна - Крулеўшчына | 7 840 руб. | 6 720 руб. |

## У Вілейцы пройдзе калядны канцэрт

**ВІЛЕЙКА.** Увечары ў пятніцу, 11 студзеня, у Палацы культуры адбудзецца святочны канцэрт «Святло Нараджэння Хрыстова». Пройдзе падобнае мерапрыемства ў горадзе ў чацверты раз. Плануецца, што падчас канцэрта выступяць хоры храмаў з Вілейкі, Маладзечна, вёскі Любань Вілейскага раёна, мастацкія калектывы вілейскай гімназіі №2, дзіцячай школы мастацтваў. Пачатак канцэрта ў 18 гадзін.

А перад ім, у 17 гадзін, упершыню пройдзе канцэрт ансамбля школы званароў Беларускай праваслаўнай царквы. Будзе ён суправаджаць расказ пра званы. Выступяць вілейскія фальклорна-этнаграфічныя калектывы. Уваход на канцэрт вольны.

## Злавілі машыну з ласінай тушай

**ВІЛЕЙКА.** У суботу вечарам 5 студзеня супрацоўнікі Вілейскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету і дзяржаўтаінспекцыі на аўтадарозе Вілейка-Асіпаўка, ля вёскі Асіпаўкі, спынілі аўтамабіль "Опель-Вектра", у якім везлі тушу дзікай жывёліны. Пра гэта паведаміла Вілейская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету. У машыне ехала чацвёра жыхароў Вілейкі. У багажніку знайшлі чатыры мяшкі з мясам лася вагой 100 кілаграмаў. Віляйчане не мелі дакументаў, якія пацвердзілі б законнасць здабычы жывёліны і перавозку прадукцыі палявання. Праводзіцца праверка.

## Чакаецца ўздым захворванняў на грып, але не эпідэмія

**БЕЛАРУСЬ.** У бліжэйшы час спецыялісты чакаюць уздыму захворванняў на грып і вострыя рэспіраторныя хваробы. Традыцыйна сезонны ўздым грыпу адбываецца ў студзені–лютым. Асабліва пільныя да здароўя павінны быць пажылыя людзі, паведамляе БелаПАН. Але сёлета прышчапілася 3,4 мільёна чалавек, ці 35,7% насельніцтва. Гэта значыць, што колькасць захварэўшых на грып можа не быць дастатковай для аб'яўлення эпідэміі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Гора ў Ашмянах




Беражыце сябе і сваіх блізкіх.

**АШМЯНЫ. Навіна аб тым, што ад успышкі менінгіту памерлі двое дзяцей, з'явілася ў адным з беларускіх інтэрнэт-парталаў у сераду, 9 студзеня.**

Паводле распаўсюджанай інфармацыі, хвароба забрала жыцці дзяўчынкі 14-і гадоў і хлопчыка 4-х гадоў з Ашмянаў.

– Ніякай эпідэміі ў нашым горадзе няма, – пракаментаваў сітуацыю для "Рэгіянальнай газеты" **Уладзімір Кунц**, галоўны доктар Цэнтральнай раённай бальніцы Ашмянаў. – І не трэба з гора бацькоў рабіць сенсацыю для СМІ.

Як паведаміў доктар, дзеці былі хворыя не на менінгіт, а на менінгакокавую інфекцыю. У першым выпадку ў хворых назіраецца запаленне абалонак галаўнога мозга, у другім такога сімптому няма. Крыніцай менінгакокавай інфекцыі з'яўляюцца ўзбуджальнікі, якія мае ў сваім арганізме кожны дзясяты чалавек.

– Дастаткова часовага паслаблення імунітэту, каб узбуджальнікі актывізаваліся, – гаворыць Уладзімір Кунц. – Так скλаліся абставіны, што на гэтым тыдні ў нас захварэлі двое дзяцей. Ніякай успышкі раённага маштабу няма. Ёсць вялікае няшчасце бацькоў, якім можна толькі паспачуваць.

### Інфекцыі ў Беларусі на нізкім узроўні

Як паведаміў для БелаПАН на прэс-канферэнцыі 9 студзеня галоўны пазаштатны спецыяліст Міністэрства аховы здароўя па інфекцыйных хваробах **Ігар Карпаў**, штогод у Беларусі рэгіструюць смяротныя выпадкі менінгакокавай інфекцыі, але яны адзінкавыя, пра эпідэмію гаворка не ідзе.

Спецыяліст падкрэсліў неабходнасць максімальна своечасова звяртацца па медыцынскую дапамогу, калі ў дзіцяці, у тым ліку падлетка, высокая тэмпература. Прыкметамі менінгакокавай інфекцыі могуць быць таксама сып на целе ці рвота.

Загадчыца аддзялення імунапрафілактыкі рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя **Вераніка Шымановіч** адзначыла, што 2012 год меў нізкі узровень захворванняў на менінгакокавую інфекцыю.

Галоўны эпідэміёлаг Міністэрства аховы здароўя **Іна Карабан** паведаміла, што ў цэлым эпідэміялагічная сітуацыя па інфекцыйных захворваннях у 2012 годзе ў Беларусі была добрай.

– У нас не рэгістраваліся асабліва небяспечныя інфекцыі ці асабліва вялікія ўспышкі іншых захворванняў, – адзначыла Іна Карабан. Паводле яе слоў, і кішэчныя інфекцыі, і паветрана-кропельныя ў Беларусі "рэгіструюцца на досыць нізкіх узроўнях".

### Навучальныя ўстановы будуць працаваць у звычайным рэжыме

Сітуацыя з захворваннем устрывожыла жыхароў Ашмяншчыны. Як піша tut.by, многія бацькі асцерагаюцца весці дзяцей у школы і садкі.

Паводле слоў **Івана Маліны**, галоўнага санітарнага доктара Ашмянскага раёна, абмежавальных мерапрыемстваў у раёне не прадугледжана.

– Мы збіраліся з усімі дырэктарамі школ. Гэта не эпідэмія, – паведаміў доктар. – Цяпер сезон уздыму ВРВІ, а менінгіт цяжка адрозніць ад віруснай інфекцыі, якая таксама можа суправаджацца галаўным болем і тэмпературай. Асноўныя метады прафілактыкі менінгіту: частыя прагулкі на свежым паветры без пераахалоджвання, заняткі спортам і прыём вітамінаў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ВЫТВОРЧАСЦЬ

# “Амкадор-Унікаб” адчыняе новы цэх



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Гатовая прадукцыя “Амкадор-Унікаб”.

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 11 студзеня, адбудзецца адкрыццё механазагатоўчага цэха закрытага акцыянернага таварыства “Амкадор-Унікаб”.**

Як адзначыла намеснік дырэктара па сацыяльна-кадравай і ідэалагічнай рабоце **Раіса Казановіч**, адкрыццё будзе не ўрачыстым, а дзелавым, на якое завітае старшыня Мінаблвыканкама **Барыс Батура**.

Гэты цэх – першая чарга ў межах інвестыцыйнага праекта, паводле якога запланаванае абнаўленне прадпрыемства да 2015 года. Сёлета плануецца будаўніцтва зборачнага і малярнага цэхаў, а таксама склада гатовай прадукцыі.

Такое ўзбуйненне прадпрыемства звязанае з тым, што павялічыўся аб'ём прадукцыі, а таксама са з'яўленнем новых відаў прадукцыі. У прыватнасці, “Амкадор-Унікаб” плануе вырабляць аўтагрэйдары – спецыяльныя машыны, якія неабходныя для дарожна-рамонтных работ.

У новым цэху будуць вырабляць дэталі для кабін спецыяльнай тэхнікі – вілачных пагрузчыкаў. Цяпер выпускаюць пагрузчыкі грузападымальнасцю 1,6 і 2,5 тоны, а плануюць выпускаць грузападымальнасцю да пяці тон.

У Беларусі гэта адзінае прадпрыемства, якое вырабляе вілачныя электрапагрузчыкі. “Амкадор-Унікаб” стане таксама адзіным прадпрыемствам, якое займаецца вытворчасцю аўтагрэйдараў.

– Цэх мае высокатэхналагічнае сучаснае абсталяванне, – адзначыў намеснік дырэктара па вытворчасці **Васіль Мацейчык**. – Яно высокадакладнае і высокавытворчае, да мінімуму скарачае ручную працу.

– Калі раней мы працавалі ў тры змены, то цяпер механазагатоўка працуе ў адну змену, – тлумачыць начальнік новага механазагатоўчага цэха **Сяргей Азаронак**. – Штат скарацíўся прыкладна напалову дзякуючы таму, што абсталяванне мае высокі ўзровень вытворчасці.

Аператары, якія працуюць за станкамі з лічбавым кіраваннем, маюць як мінімум сярэднюю спецыяльную адукацыю, некаторыя ўжо атрымалі ці яшчэ атрымліваюць вышэйшую.

– Работнікі новага цэха разам са сваім начальнікам – гэта неабыякавыя да працы і творчыя людзі, якія стварылі згуртаваны калектыў, – гаворыць Раіса Казановіч.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка “РГ”.** Пагрузчык – спецыяльны складскі падлогавы транспарт, прызначаны для пад'ему, перамяшчэння, разгрузкі, пагрузкі, складзіравання розных грузаў, пры дапамозе вілаў ці іншых рабочых прыстасаванняў.

# Андрэй Радкоў стаў чалавекам года па версіі “Нашай нівы”

**Газета “Наша ніва” традыцыйна падводзіць вынікі года і выбірае самых выбітных асоб Беларусі. У 2012 годзе такіх асоб рэдакцыя назвала тры – Андрэй Радкоў, Аляксей Бацюкоў і Дзмітры Яцкевіч.**

Менавіта гэтыя энтузіясты ў мінулым годзе вярнулі ў Беларусь Статут Вялікага Княства Літоўскага.

Андрэй Радкоў запомніўся яшчэ і тым, што выступаў за пакаранне вандала, які апаганіў пахаванні Беніцкага касцёла на Маладзечаншчыне. У выніку справа будзе перагледжаная маладзечанскай пракуратурай, а вандал мусіць панесці пакаранне. Больш падрабязна пра гэты выпадак можна прачытаць у №43 “Рэгіянальнай газеты” за 2012 год, а таксама на сайце www.rh.by.

Намаганнямі гэтых трох неабыякавых людзей у Беларусі ўжо з'явіўся асобнік кнігі “Вялікае мастацтва артылерыі” Казіміра Семяновіча.

Далейшы пошук беларускіх артэфактаў працягваецца і цяпер.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Андрэем РАДКОВЫМ.

Студэнт гістарычнага факультэта дапамог вярнуць у Беларусь Статут ВКЛ.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Калі вы звычайна выкідаеце навагоднюю ёлку?



**Аксана Рубан, дворнік:**

– А я звычайна яе і не стаўлю. Дзеці ўжо выраслі, а для сябе – не бачу сэнсу. Ды і кватэру да святаў ніяк не ўпрыгожваю. На маю думку, гэта проста лішняе смецце.



**Валянціна Арцюхова, медсястра:**

– Ёлку мы звычайна ставім да каталіцкіх Калядаў – у нашай сям'і ім надаецца больш значэння, чым Новаму году. А прыбіраем недзе ў канцы студзеня. Ёлка заўсёды натуральная, таму апалую igліцу я звычайна збіраю, а вясной выкарыстоўваю для ўгнаення расады.



**Ганна Грыгальчык, навучэнка:**

– У нас ёлка стаіць недзе да дзясятага студзеня. Пасля выкідаем дрэўца. Часта выразаем нешта з паперы сваімі рукамі, таму ў той жа дзень здымаем і ўпрыгажэнні па ўсёй кватэры.



**Ніна Новік, пенсіянерка:**

– У нас ёлка штучная, з яе нічога не сыплецца. Таму бывала, што і да вясны стаяла. Але звычайна стараемся разабраць яе да Вадохрышча.



**Уладзіслава Мушкіна, часова беспрацоўная:**

– У маёй сям'і не прынята адзначаць ні Новы год, ні Каляды. Ёсць у нас і іншыя нагоды, каб сабрацца ўсім разам, не абавязкова на святы. Таму ёлкі і іншых упрыгожванняў звычайна няма.



**Вольга Шустава, работнік пошты:**

– Мы разбіраем ёлачку перад Вадохрышчам. Звычайна ставім штучную, хаця я больш люблю натуральную. Але звычайна разважаем так: навошта губіць жывое дрэўца, калі для паху ў кватэры і навагодняй атмасферы хопіць і пары галінак?



**Тамара Гіль, прадавец:**

– Цяпер я ёлку не стаўлю. Але калі выбіраць паміж натуральнай і штучнай, то выберу натуральную. Я працую ў краме рытуальных паслугаў, таму пах і выгляд штучнай ёлкі мне даўно не падабаецца.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Настасся РОЎДА.**

# Камент-эксперт



Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

### Зімовы паход у беларускую пячору

Файна вам! Зычу новых цікавых вандровак і ў наступным годзе! *Алесь Вялейскі.*

Арганізатарам такіх вось ідэй для дзяцей трэба міністэрскую зарплату даваць. Колькі дзецям было радасці і як пашырылі іх кругагляд, такія паходы на ўсё жыццё запамінаюцца. *Ляля.*

### Аналіз забойстваў на Маладзечаншчыне: сёлета іх удвая больш, чым летась

Асноўная маса злачынстваў здзяйсняецца тымі, хто ўжо іх здзяйсняў і мае судзімасць. Наша сістэма папраўчых устаноў, дзе людзі адбываюць пакаранні, зусім не выпраўляе іх, а, наадварот, робіць жорсткімі, тупіць і маральна раскладае. Злачынцаў не выпраўляюць, яны проста адбываюць свой тэрмін – і на волю, а там усё па новай. Можа, гіпнатызавалі б іх на дабро і пазітыў, ці што? Ляля.

Паважаная "Ляля", у турмы адпраўляюць для пакарання, а не для выхавання. Як вы сабе ўяўляеце перавыхаванне 30-гадовага дзецюка, які да гэтай пары на волі розуму набрацца не здолеў? Як яму гэтага розуму дабавіць? Можа, трэба прафесарскія курсы там для гэтых "спатыкнуўшыхся" арганізаваць, каб уцяміць ім, што такое дрэнна і што такое добра. А каб не сумавалі ды ад сусветных навін не адставалі, камп'ютары персанальныя кожнаму уручыць. Ды ад маральнага разлажэння кожнаму ў камеру можа па жанчыне падсяліць? Не, даражэнькая "Ляля", "гарбатага" толькі магіла выправіць! Калі нармальны чалавек выпадкова туды трапіў, то ён нармальным і вернецца адтуль на волю. Каб чалавек заставаўся чалавекам, не турма павінна аб ім клапаціцца, а дзяржава, сям'я і грамадства. І выхаванне чалавека павінна пачынацца ў першую чаргу з сям'і, садка, школы. А ўжо пасля чалавека ўтрымліваць ад злачынства павінна дзяржава сваімі законамі і ідэалогіяй. Царква, якая ў нас прызнаная дзяржавай, павінна праводзіць духоўнае выхаванне чалавека. На вялікі жаль, у нас вельмі шмат сем'яў няпоўных альбо дзе бацькі п'яніцы, садок і школа займаюцца чыста адукацыйнымі працэсамі, дзяржаўная ідэалогія ў нас толькі на паперы, царква ператвараецца ў камерцыйную лаўку. Вось вам і вынік: маем тое, што маем. *Алесь Раткевіч.*

### Квіткі на Вільню падаражэюць на 45%

Вільня, гэта калыска БЕЛАРУШЧЫНЫ!!! Бальшавіцкі рэжым парваў на кавалкі нашу бацькаўшчыну. Беластокшчыну падарыў Польшчы, а беларуска-літоўскую мяжу, ад сучаснага літоўскага Электраная, перасунуў ледзь не да Ашмянаў, пакінуўшы Вільню на тым баку мяжы. Хутчэй за ўсё, гэтым беларускім падзелам бальшавікі разлічыліся з Польшчай і Літвой за акупаваную і прысабечаную Усходнюю Прусію. Паўстае пытанне, чаму бальшавікі так нахабна, як акупанты, распарадзіліся беларускай тэрыторыяй, як сваёй? Хоць наша Вільня і апынулася ў няволі, але яе літоўцы добра даглядаюць і шануюць як агульны беларуска-літоўскі гістарычны помнік. Разумеюць, паважаюць і лічаць сваімі беларусаў, якія наведваюць сваю Вільню. *Алесь Раткевіч.*

### Масква, Кіеў і Беласток – па тры дзівосы з кожнага горада

1. Масква заснаваная ў 1147 годзе (12 стагоддзе), а тое, што тут практычна няма помнікаў сярэднявечнай еўрапейскай архітэктуры – гэта зусім іншая гісторыя.

2. Будзеце часцей бываць у Польшчы (і наогул у Еўропе) – убачыце, што добразычлівыя адносіны паміж людзьмі – гэта зусім не дзіва. *Бурэнь Валерый.*

**ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ**

### Ці адчулі вы, што пачаўся новы год?

| | |
|---|---|
| 34% | З-за працы не адчуваю і калі ноч пачынаецца |
| 21% | Лепш бы і не пачынаўся, праблемы адна за другой цягнуцца |
| 15% | Безумоўна, таму што адзначылі як мае быць |
| 12% | Што той новы год, зноў каляндар мяняць давядзецца |
| 9% | Новы год пачнецца, як адзначаць законным |
| 6% | Дык ужо і вясна, здаецца, следам пачалася |

Усяго галасоў 32

АДПАЧЫНАК

# Мюзікл пра сапраўдных чараўнікоў

**МЯДЗЕЛ. Падчас школьных канікулаў у гарадскім Доме культуры паказвалі музычны спектакль пад назвай "Сапраўдныя чараўнікі".**

Адбылося пяць прадстаўленняў для дзяцей. Рэжысёрам навагодняй казкі стала супрацоўніца ГДК **Людміла Фадзеева.** Над пастаноўкай працавалі разам з мужам Яфімам і іншыя работнікі Дома культуры. Гэта ўжо другая сур'ёзная навагодняя пастаноўка ў Мядзеле: год таму дэманстравалася казка-мюзікл "Навагоднія прыгоды".

Сямейны дуэт Фадзеевых працаваў і працягвае працаваць у тэатрах Мінска і іншых гарадоў. Вось гэтая казка некалі была пастаўленая ў Тэатры юнага гледача, а цяпер у перарobленым варыянце дэманстравалася на сцэне Мядзельскага ГДК.

Да прэм'еры ўсе супрацоўнікі Дома культуры рыхтаваліся амаль два месяцы. Трэба было зрабіць прыгожыя дэкарацыі, падабраць музыку, светлавое афармленне, правесці шмат рэпетыцый.

Апроч культработнікаў, у пастаноўцы былі занятыя школьнікі – удзельнікі тэатральнага гуртка пры Доме культуры.

– У музычным спектаклі ўдзельнічалі вельмі таленавітыя дзеці. Пасля мінулагодняга мюзікла яны пастаянна пыталіся ў мяне: "А будзем што-небудзь рабіць да гэтага навагодняга свята?". І як жа тут не зробіш?! – кажа Людміла Фадзеева. – Але ў будучым пастараемся паставіць спектакль на іншую тэму, каб ён "жыў" доўга і яго можна было дэманстраваць не толькі ў навагоднія святы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Момант з музычнага спектакля "Сапраўдныя чараўнікі".



КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

## У Вілейцы выбралі лепшых чытачоў

**ВІЛЕЙКА. Напрыканцы года работнікі бібліятэк горада вызначылі самых актыўных чытачоў.**

Пры выбары ўлічвалі, хто больш за ўсіх наведаў бібліятэку і прачытаў выданняў. Але не толькі: бралі пад увагу ўдзел у жыцці бібліятэкі. Напрыклад, хтосьці падарыў установе кнігі, нехта даваў ім новае жыццё.

Лепшымі аказаліся людзі розных узростаў і прафесій. Гэта вучні – гімназіі "Логас" **Алена Пенда** і **Сяргей Свяцкі**, СШ №3 **Паліна Паўловіч**, СШ№1 **Алег Палубятка**, настаўнікі **Таццяна Лявіцкая** і **Часлаў Лобач**, доктар **Ірына Буйко**, слесар **Сяргей Арловіч**, вайсковец **Генадзь Гамолка**, часова непрацуючая **Ніна Дзевяцень**, пенсіянеры **Людміла Жалудок, Зінаіда Місевіч** і **Аляксандр Жук**, паведамілі ў аддзеле бібліятэчнага маркетынгу Вілейскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.

Іх ушанавалі на свяце «А чытанне, а чытанне – твой сябар на шмат гадоў», якое прайшло ў школе мастацтваў. Адданым чытачам уручылі сімвалічныя сувеніры – вазы з эмблемай Года кнігі. Вырабіла іх майстрыха **Наталля Сідарчык**.

## Узнагародзілі аўтараў лепшых лістоў да Дзеда Мароза

**ВІЛЕЙКА. З сярэдзіны снежня ў Палацы культуры працуе "Навагодняя пошта для Дзеда Мароза".**

У спецыяльную скрыню дзеці апускалі лісты да казачнага Дзядулі. Напярэдадні Новага года супрацоўнікі Палаца культуры вызначылі аўтараў лепшых з іх.

Падчас падвядзення вынікаў улічвалі арыгінальнасць. Адзначылі тых дзяцей, якія выказвалі цікавыя думкі. Напрыклад, у адным з лістоў разважалі пра тое, што Дзед Мароз – гэта ідэальны мужчына, які выконвае ўсе жаданні, – расказвае дырэктар Палаца культуры **Вольга Шляпо**. – Пераможцамі сталі дзве 12-гадовыя дзяўчынкі – **Дар'я Варанько** і **Ганна Тушынская**.

Пераможцы атрымалі прызы: адна – шчыпцы для завіўкі валасоў, другая – мяккую цацку і білет на 5D-кіно.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КАРУПЦЫЯ

Фота theepochtimes.com

Кіраўнік свінагадоўчага комплексу падазраецца ў карупцыйным злачынстве.

# Скраў амаль 100 свіней

**АСТРАВЕЦ. Кіраўнік аднаго з раённых свінагадоўчых комплексаў падазраецца ў крадзяжы амаль ста свіней на суму больш за 200 мільёнаў рублёў.**

Цяпер на яго ўзбуджаная крымінальная справа. Ён падазраецца ў здзяйсненні карупцыйнага злачынства.

Па дадзеных аддзела барацьбы з эканамічнай злачыннасцю, падазроны з сакавіка па кастрычнік 2011 года, калі працаваў кіраўніком свінагадоўчага комплексу, скраў 92 свінні на суму больш за 200 мільёнаў рублёў. Скрадзеных свіней ён прадаў, а выручку забраў сабе.

Цяпер для папярэдняга расследавання матэрыялы крымінальнай справы перададзены ў Следчы камітэт.

Пра здарэнне паведаміў сайт ej.by.

Інфармацыю пацвердзіў начальнік Астравецкага раённага аддзела Следчага камітэта **Марэк Сінкевіч.**

**Аддзел інфармацыі.**

СЛУЖБА 101

## Пажар мог забраць жыцці двух хлопчыкаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося ў аўторак, 8 студзеня. Каля гадзіны дня ў "101" патэлефанаваў 12-гадовы хлопчык і паведаміў, што ў яго доме па вуліцы Галубка пачаўся пажар.**

У доме быў і яго 8-гадовы малодшы брат.

Калі пачаўся пажар, хлопчыкі былі адны дома.

Як потым патлумачылі бацькі, здарэнне адбылося з-за звычайнай запалкі. Іх старэйшы сын чысціў на кухні колы тачкі лёгкаўзгаральнай вадкасцю. У гэты час зайшоў малодшы і папрасіў заварыць яму гарбату. Старэйшы запаліў канфорку і кінуў запалку на падлогу. Тая патрапіла на анучу, якая ўжо была прамочаная лёгкаўзгаральнай вадкасцю, і пачаўся пажар.

Старэйшы хлопчык сам пачаў тушыць яго і атрымаў апёкі левай галёнкі першай ступені.

Малодшы тым часам адкрыў акно і стаў клікаць на дапамогу. Хлопец, які жыве побач, палучыў крыкі і кінуўся да дзяцей. Ён зняў малодшага хлопчыка з падаконніка, а сам залез у дом. Старэйшы хлопчык ісці з дому не хацеў, бо пажар яшчэ не быў патушаны. Але 20-гадоваму суседу ўдалося яго пераканаць і нават паспець затушыць пажар.

Яны выходзілі з дому ўжо праз дзверы.

Пра здарэнне паведаміла інспектар групы прапаганды і навучання гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Марына Ермакова.**

**Настасся РОЎДА.**

АКЦЫЯ "МАРФЕЙ"

## Здавайце наркотыкі ў міліцыю

**Таблеткі і ампулы, якія некалі выпісаў доктар у звычайнай раённай паліклініцы ці бальніцы, могуць стаць падставай для прыцягнення да крымінальнай адказнасці.**

На днях маладзечанка здала ў міліцыю 18 ампул лекаў, у склад якіх ўваходзіць наркатычнае рэчыва. Яна патлумачыла, што ампулы засталіся пасля смерці мужа. У яго было анкалагічнае захворванне, і ампулы выпісаў доктар.

Прычын, па якіх у вас выпадкова могуць захоўвацца наркотыкі і аб чым вы нават можаце не падазраваць, нямала. Доктар выпісаў вам моцнадзейныя псіхатропныя прэпараты, і ў вас засталіся лішнія.

У такіх выпадках лекі, якія засталіся, трэба адразу здаць у бліжэйшае аддзяленне міліцыі, інакш па законе гэта лічыцца захоўваннем наркатычных сродкаў.

Дарэчы, даволі шмат ахвотных потым прадаць лішкі падобных лекаў. А гэта ўжо адназначна лічыцца продажам наркотыкаў. У гэтым выпадку як прадавец, так і пакупнік могуць быць асуджаныя.

Каб папярэдзіць жыхароў ад ненаўмыснага злачынства, упраўленне па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Мінскай абласной міліцыі аб'явіла акцыю "Марфей". Жыхары, якія без дакументальна пацверджаных падстаў па нейкіх прычынах захоўваюць лекі, што ўтрымліваюць у сабе наркатычнае рэчыва, могуць здаць іх у міліцыю. Пры гэтым яны вызваляюцца ад адказнасці.

Для ўдакладнення вы таксама можаце званіць па тэлефонах:

**70-30-28, 77-16-56** ці **102**.

**Дзмітры СУХОЦКІ, начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Насмерць збіў 60-гадовую жанчыну

**МАЛАДЗЕЧНА. Аварыя адбылася 2 студзеня каля 20 гадзін.**

19-гадовы маладзечанец на аўто "Фольксваген-Пасат" ехаў з боку Мінска на Маладзечна.

У Радашкавічах ён наехаў на 60-гадовую жанчыну. Тая ішла па абазначаным асветленым нерэгулюемым пешаходным пераходзе. Жыхарка Радашкавічаў ад атрыманых пашкоджанняў загінула на месцы здарэння.

Кіроўца быў цвярозы, паведаміў **Сяргей Бартош**, інспектар дзяржаўтаінспекцыі Маладзечанскага райаддзела міліцыі. На сумцы жанчыны быў флікер.

Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле 317 "Парушэнне правілаў дарожнага руху ці эксплуатацыі аўтадарожных транспартных сродкаў".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## У маладзечанца знайшлі завод па вырабе самагонкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У Маладзечне спынілі дзве буйныя нелегальныя самагонныя вытворчасці.**

У адной з павецяў чацвертага студзеня знайшлі міні-завод, дзе было больш за 1500 літраў самагоннай брагі. Яшчэ 230 літраў самагонкі ўжо было прыгатавана для продажу.

Павець належыць 32-гадоваму мясцоваму жыхару. Ён нідзе не працуе. Цяпер яму ставіцца ў віну шэраг адміністрацыйных абвінавачванняў: захоўванне самагоннага апарата, самагонкі, брагі і гэтак далей.

Прычым выраб самагонкі быў арганізаваны на высокім узроўні. Да самагоннага апарата быў падведзены нават прыродны газ.

### Наняў рабочага для вырабу самагонкі

Таксама затрыманы чалавек без вызначанага месца жыхарства і працы, якога наняў для вырабу самагонкі мясцовы жыхар.

Калі міліцыя знайшла апарат па яе вырабе, гэты чалавек якраз працаваў на ім і жыў тут.

Нагадваем, што ў кругласутачным рэжыме працуе тэлефон "гарачай лініі" МУС: **6785610** (Вэлком).

Па ім можна паведаміць пра месцы вырабу і продажу самагонкі.

Правяраецца любая інфармацыя, у тым ліку і ананімная, ад жыхароў любога рэгіёна Мінскай вобласці.

**Андрэй АМБРАЖЭЙ, начальнік аддзела УАПП Мінаблвыканкама.**

## Жыхар вёскі Лук'янавічы зноў п'яным сеў за руль

**МЯДЗЕЛ. 26 снежня ўзбуджаная крымінальная справа ў адносінах да жыхара вёскі Лук'янавічы Мядзельскага раёна.**

У чэрвені мінулага года мужчыну прыцягвалі да адказнасці за кіраванне ў нецвярозым стане аўтатранспартным сродкам. Пакаралі штрафам у два з паловай мільёны рублёў і пазбавілі вадзіцельскага пасведчання. Але праз паўгода гора-вадзіцеля зноў спынілі супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі. 7 снежня кіраваў нападпітку аўтамашынай "Фольксваген-Гольф" па вуліцы Ленінскай у Мядзеле. Крымінальная справа ўзбуджаная за кіраванне транспартным сродкам у нецвярозым стане паўторна на працягу года.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Крадзяжы ў школе, бальніцы і каледжы

**МАЛАДЗЕЧНА.** РАУС нагадвае жыхарам быць пільнымі і не пакідаць асабістыя рэчы на бачных месцах, а памяшканні – адчыненымі.

За апошнія дні ў Маладзечне адбыліся тры крадзяжы.

### Скралі куртку ў навучэнца

Навучэнец політэхнічнага каледжа звярнуўся ў міліцыю шостага студзеня. Ён паведаміў, што ў інтэрнаце ў яго з вешалкі ў прыхожай скралі зімовую куртку.

Па падазрэнні ў крадзяжы затрыманы жыхар, які ўжо мае судзімасці. Куртку ў яго забралі і вярнулі ўладальніку.

### Скралі кашалёк у бальніцы

У медсястры прыёмнага пакоя раённай бальніцы №1 шостага студзеня са службовага пакоя бальніцы скралі кашалёк з грашыма і банкаўскай карткай.

Затрыманы 34-гадовы мужчына. Па падазрэнні ў крадзяжы ён знаходзіцца ў ізалятары.

### У школе скралі кашалькі

Работніца кухні сярэдняй школы №4 чацвертага студзеня паведаміла міліцыі, што і ў яе, і ў повара з сумак скралі кашалькі з грашыма.

Ёсць падазроны. Цяпер вядзецца следства.

**Яўген БЕРКУТАЎ, начальнік штаба Маладзечанскага РАУС.**

СЯМ'Я

# У ЗАГСе цяпер можна і разводзіцца

**МАЛАДЗЕЧНА. Цяпер у ЗАГСах можна не толькі браць шлюб, але і разводзіцца. Ужо тры пары падалі заявы на развод у аддзел ЗАГС Маладзечанскага райвыканкама.**



Фота mirvam.org.

У ЗАГСе можна не толькі выйсці замуж ці ажаніцца, але і развесціся.

Па стане на сераду, 9 студзеня, у аддзел ЗАГС Мядзельскага райвыканкама пададзеная адна заява аб скасаванні шлюбу, яшчэ два чалавекі бралі кансультацыі па гэтым пытанні. У Вілейскім ЗАГСе таксама пададзеная адна заява. І зноў жа людзі тэлефануюць, распытваюць пра магчымасць скасаваць шлюб у ЗАГСе.

### Прычыну можна не тлумачыць

Адпаведныя змяненні ў Кодэксе аб шлюбе і сям'і ўступілі ў законную сілу ад першага студзеня. Цяпер менавіта ў ЗАГСах можна скасоўваць шлюбы па ўзаемнай згодзе мужа і жонкі, калі яны не маюць непаўнагадовых дзяцей і маёмасных прэтэнзій адно да аднаго.

Каб развесціся, муж і жонка павінны прыйсці ўдваіх і падаць заяву. Праз месяц мусяць зноў жа разам прыйсці на саму працэдуру скасоўвання шлюбу. Аплаціць падатак памерам чатыры базавыя велічыні (цяпер гэта 400 тысяч рублёў). Пасля гэтага складаецца акт грамадзянскага стану. Выпісваецца пасведчанне аб скасаванні шлюбу і ставіцца адпаведны штамп у пашпарт.

Калі муж ці жонка не могуць прысутнічаць на падачы заявы аб скасаванні шлюбу, то яны павінны перадаць натарыяльна завераную сваю заяву.

Заявы падаюць па месцы прапіскі мужа ці жонкі.

– Мы не павінны высвятляць прычыну, з-за якой муж і жонка хочуць разысціся, – распавяла Ніна Бажко. – Адпаведнага пункта няма і ў заяве на скасаванне шлюбу. Бывае, што падчас размовы з намі прычына высвятляецца. Звычайна разводзіцца прыходзяць, калі муж і жонка ў спрэчцы. На падачу заявы павінны прыходзіць разам, але было такое, што чалавек прыйшоў адзін і сказаў, што наогул не хоча бачыць сваю жонку. Параілі яму натарыяльна заверыць заяву.

Замежныя грамадзяне таксама могуць скасоўваць шлюб у беларускіх ЗАГСах, калі маюць пасведчанне на правы жыхарства. Калі адзін з іх грамадзянін Беларусі, а другі не мае пасведчання на правы жыхарства, то могуць развесціся ў ЗАГСе.

А калі абодва не маюць пасведчання на правы жыхарства, то разводзяцца ў сваіх дыпламатычных прадстаўніцтвах.

### У ЗАГСе лепш, чым у судзе

Як адзначае загадчыца маладзечанскага аддзела ЗАГС **Ніна Бажко**, людзям прасцей прыйсці у ЗАГС, таму што суд некаторых пужае.

Па ацэнцы Ніны Бажко, каля 30% разводаў цяпер будуць праходзіць праз ЗАГС. Пры гэтым найчасцей разводзяцца маладыя пары, якія пражылі разам ад года да пяці. Здараліся нават выпадкі, калі збіраліся разводзіцца маладыя, якія ажаніліся тыдзень таму.

### Узрост маладых набліжаецца да 30

Летась на Маладзечаншчыне скасавалі каля 500 шлюбаў, а зарэгістравалі каля 1200, разводы складаюць 42% ад колькасці шлюбаў.

Узрост маладых набліжаецца да еўрапейскай тэндэнцыі – каля 30% пар, якія ўпершыню бяруць шлюб, маюць 27-30 гадоў.

Аднак ёсць і зусім маладыя людзі, якія становяцца мужам і жонкай да 18 гадоў. Такіх шлюбаў летась было 13.

Самаму сталаму жаніху было 78 год, а нявесце – 75.

Некаторыя ўжо раней разведзеныя пары даюць адно аднаму шанец. Такіх пар, якія ажаніліся другі раз, – 21.

Наогул другі раз узялі шлюб каля 260 мужчын і 240 жанчын.

58 шлюбаў зарэгістравалі з замежнымі грамадзянамі, сярод якіх грамадзяне Лівана, Швейцарыі, Арабскіх Эміратаў.

Зоя ХРУЦКАЯ,
Алесь ВЫСОЦКІ.

## Нараджальнасць дамінуе ўжо не толькі ў Чысці

Апошнія 10 год на Маладзечаншчыне нараджальнасць перавышала смяротнасць толькі ў Чысцінскім сельсавеце. А летась у Радашкавіцкім сельсавеце нарадзіліся на два чалавекі больш, чым памерлі, і ў Маладзечне – на 15. Чысць застаецца ў лідарах – нараджальнасць тут большая на 28 чалавек.

Летась зарэгістравана 1648 нараджэнняў і 1952 смерці. Як і звычайна, нарадзілася больш хлопчыкаў – 850, а дзяўчынак 790.

Самыя папулярныя імёны: Дар'я, Ксенія, Валерыя, Анастасія, Арцём, Мацвей, Аляксандр, Мікіта.

Самыя рэдкія: Кіра, Васіліса, Касандра, Асоль, Алмаза, Эміль-Тадэвуш, Елізар, Амадэй, Назар.

КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

## Сямейныя праблемы ўсё часцей вырашаюць праз міліцыю

**ВІЛЕЙКА. Аб тым, наколькі часта канфлікты ў сям'і выходзяць па-за межы кватэры, распавёў Андрэй Дударчык, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі:**

– Вядома, нейкія сямейныя высвятленні адносінаў адбываюцца ў кожнай кватэры. Але цяпер усё часцей з імі звяртаюцца ў міліцыю.

Калі паглядзець статыстыку, то пераважная большасць зваротаў да нас – якраз з-за сямейных скандалаў паміж роднымі. Такія выклікі складаюць каля 70%. Прычым звяртаюцца ў тых выпадках, пра якія раней ўвогуле па-за домам не гаварылі. Умоўна кажучы, сварка з-за непамытага посуду можа скончыцца выклікам міліцыі. Бывае так, што да прыезду супрацоўнікаў сварка заканчваецца. Але факт выкліку ўжо ёсць, з ім трэба працаваць далей. Да таго ж міліцыя губляе бензін на дарогу.

А часам нават мужы скардзяцца на сваіх жонак. Вельмі часта такія выпадкі здараюцца на фоне злоўжывання алкаголем і псіхалагічных праблем у сям'і.

Аляксандра ПАРАХНЯ.

## Летась на Вілейшчыне заключана 357 шлюбаў

**ВІЛЕЙКА. Як паведамілі ў аддзеле ЗАГС райвыканкама, у 2012 годзе ў Вілейскім раёне нарадзілася 442 дзіцяці (з гэтай колькасці ў Вілейцы – 290).**

Памерлі 906 чалавек, з якіх 367 у райцэнтры. У шлюб уступілі 357 пар, асноўная колькасць шлюбаў зарэгістравана ў горадзе – 256.

Калі параўнаць з 2011 годам, то тады на Вілейшчыне было больш і нараджэнняў – 484, і шлюбаў – 423. Праўда, памерла пазалетась людзей таксама больш, чым у 2012 годзе, – 973.

Алесь ВЫСОЦКІ.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## У якім узросце аптымальна ствараць сям'ю?



**Анастасія Пасечнік, маладая маці:**

– Думаю, самы лепшы перыяд – гэта 20-25 гадоў. Тады людзі і псіхалагічна лепш падрыхтаваныя да сумеснага жыцця, і пачынаюць самастойна працаваць і зарабляць грошы.



**Аляксандр Нужын, пенсіянер:**

– Ствараць можна ў любым, але якой атрымаецца сям'я – іншае пытанне. З уласнага досведу скажу: перад вяселлем і мужчына, і жанчына павінны дайсці да пэўнай ступені маральнага і матэрыяльнага развіцця. У першую чаргу – адказваць за свае ўчынкі і ўмець браць на сябе адказнасць.



**Наталля Глебец, у дэкрэтным адпачынку:**

– Для таго, каб сям'я сапраўды адбылася, маладыя павінны быць падрыхтаваныя матэрыяльна. Але псіхалагічны бок таксама важны – да ранніх шлюбаў, гадоў у 17-18, не ўсе падрыхтаваныя. Напэўна, лепш за ўсё ствараць сям'ю ў 21-22 гады.



**Аляксандр Гарэлікаў, рабочы:**

– Мужчына можа жаніцца тады, калі адчуе, што можа ўтрымліваць уласную сям'ю. Бо маладыя хлопцы часта не разумеюць функцый мужчыны. А жанчына – калі зразумее мэту, з якой хоча выходзіць замуж. Для таго, каб сям'я была моцнай, важна, каб маладыя аддзялялі такія паняцці, як закаханасць і каханне.



**Іван Бычкоўскі, аператар:**

– Для кожнага ўзрост свой. Адзінае, на што варта звярнуць увагу, – каб маладая сям'я была самастойнай і не залежала ад бацькоў, не была ў іх на ўтрыманні.



**Ягор Жыхараў, менеджар:**

– З пункту гледжання падрыхтаванасці арганізма лепшы ўзрост – 21 год. Да гэтага ўзросту можна паспець падрыхтавацца да сямейнага жыцця да таго ж і маральна, і матэрыяльна.



**Пётр Кананові́ч, інжынер:**

– Для мужчыны лепшы ўзрост – 27 гадоў. Тады ён будзе пасля арміі, будзе больш сталым і на ўсё стане глядзець інакш. А для жанчыны – 22, калі яна толькі скончыць вучобу.

Настасся РОЎДА,
Аляксандра ПАРАХНЯ.

НАШЫ ГРОШЫ

# Ці варта чакаць абвалу эканомікі ў 2013 годзе?

## Эканамічны прагноз разам з вядомымі экспертамі

*"Я думаю, што ў параўнанні з мінулым годам мала што памяняецца. Хіба, у галіне прыбыткаў… Маўляў, раней яны раслі да 500 долараў, а далей давайце самі",* – расказвае **Сяргей Чалы.**

Эканаміст не чакае нейкіх перамен у новым годзе. Гаворыць, што яны нікому не патрэбныя. Ваганні асноўных паказчыкаў эксперт прадказвае ў межах 10%. Курс долара на канец восені 2013-га **Чалы** бачыць у межах 9200-9500 рублёў.

Калега **Сяргея Чалага, Леанід Злотнікаў**, апісвае куды больш апакаліптычныя краявіды. На думку эканаміста, для падтрымкі узроўню дабрабыту, пастаўленага ў 2012 годзе, ураду Беларусі ў 2013 годзе спатрэбіцца ажно 8 мільярдаў долараў. Калі дадаць сюды тры мільярды, якія неабходна выплаціць па крэдытах, то атрымоўваецца надзвычай кругленькая сума. І калі частку можна будзе "наскрэбці", дзякуючы крэдытам ад ЕўрАзЭС і Кітая, то прыкладна 8 мільярдаў давядзецца браць немаведама адкуль. Злотнікаў гаворыць, што нас можа чакаць адток валюты, а за ім інфляцыя і ўсе іншыя "цуды".

*"Ну вось, мы бачым, што ёсць, як мінімум, дзве праблемныя рэчы – падтрыманне дабрабыту насельніцтва і выплата пазык. І вось гэтыя рэчы моцна ўплываюць на адток валюты з Беларусі".*

Кампенсаваць яго можна будзе дзякуючы продажу дзяржаўнай маёмасці. **Леанід Злотнікаў** перакананы, што ў 2013 годзе нас чакае новая хваля прыватызацыі. І калі ўсё будзе добра, то курс долара на канец года складзе прыкладна 9500 рублёў. Калі ж не, то ўжо вясной можна чакаць і 14-ці тысяч за долар.

А вось фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра кампаніі "Альпары" ў Мінску **Вадзім Іосуб** прадказвае, што мы ўжо ў хуткім часе можам зразумець, чаго чакаць ад 2013-га. Эксперт бачыць дзве плыні ва ўладных структурах – Нацбанк, які адстойвае больш жорсткі накірунак, і ўрад, які зацікаўлены ў выкананні праграмных пастаноў.

*"Вось цяпер асноўная інтрыга заключаецца ў тым, ці будуць прынятыя нейкія персанальныя рашэнні. Бо ў 2012 годзе план па росце ВУП у памеры 5,5% не быў выкананы".*

Таму калі ўрад у бліжэйшы час панясе асабістыя страты, то можна меркаваць пра выбраны накірунак. Калі ж невыкананне планаў па росце ВУП ураду даруюць, гэта будзе сведчыць аб асноўнай ролі Нацбанка. А значыць – 2013 год пройдзе без вялікіх сенсацый.


Сяргей Чалы. Фота radyjo.net.


Леанід Злотнікаў. Фота belsat.eu.


Вадзім Іосуб. Фота tut.by.


Надзея Ермакова. Фота Еўрарадыё.

Прагноз **Іосуба** на курс долара не адрозніваецца ад меркаванняў калег па цэху – тыя ж 9500 на канец года. Калі ж Беларусь абярэ новага прэм'ера і возьме накірунак на дасягненне 8%-га росту ВУП на 2013 год – "цуды" нас могуць чакаць ужо вясной.

Кіраўніца Нацбанка **Надзея Ермакова** запэўнівае, што гэтага не будзе. Падчас прамой лініі 26 снежня яна заявіла, што "землятрусаў" у беларускай эканоміцы ў 2013 годзе не чакаецца. Як і моцных ваганняў курса долара.

**Алесь ПІЛЕЦКІ, Еўрапейскае радыё для Беларусі.**

| Эксперт | Прагноз курса долара на канец 2013 года |
|---|---|
| Сяргей Чалы | 9200-9500 |
| Леанід Злотнікаў | 9500-14000 |
| Вадзім Іосуб | 9500 |
| Надзея Ермакова | 9500 |



## Курсы валют НБ РБ

| | 27.12 | 10.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 8 540.00 | **8 650.00** |
| **Еўра** | 11 260.00 | **11 320.00** |
| **Злоты** | 2 758.26 | **2 749.22** |
| **Літ** | 3 264.78 | **3 277.38** |
| **Расійскі рубель** | 279.00 | **284.50** |
| **Грыўня** | 1 067.17 | **1 071.87** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 8540/8670 | **8640/8740** |
| **Еўра** | 11200/11370 | **11200/11390** |

## Цэны на рынку

| ПРАДУКТЫ | 26.12 | 9.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 115800 | **117550** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 43200 | **44950** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 56000 | **55000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85900 | **85900** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26800 | **27900** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 21800 | **22150** |
| **Селядзец**, 1 кг | 29500 | **21800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **93500** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10300 | **10700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 10600 | **9950** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10100 | **10000** |
| **Алей** | 16800 | **16850** |
| **Маянэз**, 200 г | 4600 | **4300** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7600 | **7900** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9100 | **13380** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 3000 | **3800** |
| **Капуста**, 1 кг | 2500 | **3300** |
| **Морква**, 1 кг | 3000 | **4000** |
| **Буракі**, 1 кг | 3000 | **2500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 17500 | **18000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 18500 | **16000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 15000 | **15500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 12000 | **30500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 25900 | **32000** |
| **Перац**, 1 кг | 33000 | **37000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 18000 | **22000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **13500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 3000 | **8400** |
| **Грушы**, 1 кг | 18500 | **18900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 10000 | **8000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **36000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 53000 | **58000** |
| **Бульба**,1 кг | 2000 | **2000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **60000** |

ЭКАЛОГІЯ

# Правільна абыходзьцеся з адходамі

**У выніку дзейнасці прадпрыемстваў і арганізацый у нашай краіне штогод утвараюцца тысячы тон адходаў вытворчасці, сярод якіх ёсць і небяспечныя.**

Збор, захоўванне і абясшкоджванне адходаў павінны быць арганізаваны ў адпаведнасці з патрабаваннямі нарматыўных дакументаў.

Юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі, якія працуюць з адходамі, **абавязаны**:

- Забяспечваць збор адходаў і іх падзел па відах;
- Распрацоўваць і ўзгадняць нарматывы утварэння адходаў;
- Атрымоўваць дазвол у тэрытарыяльных органах Мінпрыроды на захоўванне і захаванне адходаў вытворчасці;
- Весці ўлік адходаў у адпаведнасці з правіламі;
- Арганізоўваць перавозку адходаў, запаўняць і весці ўлік суправаджальных пашпартоў перавозкі адходаў;
- Падрыхтаваць работнікаў для працы з адходамі, а таксама праводзіць інструктажы і праверку ведаў, павышаць іх кваліфікацыю;
- Не дапускаць шкоднага ўздзеяння адходаў, прадуктаў ўзаемадзеяння на навакольнае асяроддзе, здароўе грамадзян, маёмасць і іншае.

Збор адходаў і раздзяленне іх ажыццяўляецца вытворцам адходаў. Калі вытворца адходаў не выканаў патрабаванняў па іх раздзяленні па відах, то раздзяленне ажыццяўляе тая арганізацыя, да якой перайшло права ўласнасці на адходы.

Адным з асноўных прынцыпаў у працы з адходамі з'яўляецца прыярытэтнасць выкарыстання адходаў у дачыненні да іх абясшкоджвання пры ўмове захавання патрабаванняў заканадаўства аб ахове навакольнага асяроддзя і з улікам эканамічнай эфектыўнасці.

Адходы у якасці другаснай сыравіны павінны выкарыстоўвацца на аб'ектах па выкарыстанні адходаў. Такія аб'екты належаць рэгістрацыі ў рэестры па выкарыстанні адходаў у парадку, устаноўленым Міністэрствам ахоны прыроды. Вядзенне рэестра аб'ектаў ажыццяўляе РУП "БелНІЦ "Экалогія". Эксплуатацыя аб'ектаў па выкарыстанні адходаў, не ўключаных у рэестр такіх аб'ектаў, не дапускаецца.

Акрамя таго, каб займацца выкарыстаннем адходаў 1 - 3 класаў небяспекі, неабходна мець ліцэнзію.

Выкананне працэдур, пералічаных вышэй, рэгулюецца адпаведнымі нарматыўнымі прававымі і (або) тэхнічнымі нарматыўнымі прававымі актамі. Яны з'яўляецца абавязковымі для індывідуальных прадпрымальнікаў, якія маюць дачыненне да адходаў ад вытворчасці.

**Наталля ВАСІЛЬКОВА, начальнік сектара экалагічных вымярэнняў Маладзечанскага цэнтра стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі.**

# Назву для піцэрыі выбіраюць з дапамогай Інтэрнэта

**МЯДЗЕЛ. У Інтэрнэце праводзіцца апытанне наконт назвы для новай піцэрыі. Галасаванне на сайтах http://www.myadel.minsk-region.by і narachanka.by.**

Прапануюцца наступныя варыянты: "Тет-а-тет", "Тайм Аут" і іншыя. Прапановы можна дасылаць на скрыню ideologm@mail.ru.

Піцэрыя размесціцца ў цэнтры горада, на вуліцы Крупскай, у колішнім кафэ "Ласунак". Зараз завяршаецца рэканструкцыя памяшкання. Адкрыццё піцэрыі ў Мядзеле запланаванае на першы квартал гэтага года.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**166**

**Рэгіянальная газета** ТРАНСПАРТ

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск

## ВІНШАВАНКА

**Наша любімая мама**
**і бабуля**
**Галіна КАСАТАЯ!**
Віншуем цябе з тваім юбілеем!



*Няхай ярчэй засвеціць сонца*
*ўранні,*
*Сагрэе промнямі надзей,*
*Ад сэрца – нашы пажаданні*
*Табе мы шлём у гэты дзень.*
*Мы ўдзячны лёсу, што ты ёсць*
*на свеце,*
*Хай для цябе і час*
*прыпыніць ход,*
*Зычым сёння мы у твае свята*
*Здароўя і шчаслівых доўгіх год.*
Мы цябе вельмі любім.
**Твае дочкі, зяці, унукі і ўся сям'я.**

**З 55-ГОДДЗЕМ!**
**Людміле Лявонцьеўне**
**АКУНЕЦ**
**з Вілейкі**



*Жадаем, каб у тваім сэрцы*
*Былі і шчасце, і спакой,*
*Жадаем маладосці вечнай,*
*Ніколі не старэць душой!*
*Хай Бог заўжды аберагае*
*Ад зла, хваробы і журбы,*
*Ты будзь прыгожай, добрай,*
*шчырай*
*Яшчэ на доўгія гады!*
**Муж, дзеці, унукі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2109 у добрым стане, 1990 г.в., 1450 у.а. Т. (8-033) 6391141.

• Колы, 4 шт., зіма, "Туд'ер", 200 у.а. Т. (8-029) 2693511.*

• Мерседэс 813, 1978 г.в., грузавы, будка ізатэрма 20 м3, 8500 у.а. Т. Вэлком (8-029) 6130777.

• Опель Астра Н, 2007 г.в., 1,7 ТД, 164000 км, 6-МКПП, цёмна-сіні, універсал, з Германіі, 110 л.с, добры стан. Т. (8-029) 8625610.

• Опель Зафіра, 2003 г.в., 2,0 ТД, колер цёмна-зялёны, 7 месцаў, адны рукі. Т. (8-029) 6190467.

**Размясці сваю аб'яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце RH.by**

• Пежо 807, 2004 г.в., выдатны стан; дыскі БМВЕ39, 4 шт, 60 у.а. Т. (8-033) 6665868.*

• Рэно Велсаціс, 2002 г.в., 2,2 Д, усе опцыі, 7550 у.а ці абмен. Т. (8-029) 9820207.

• Рэно Меган, 2001 г.в., 1,6 бензін, 5-дзвярэй, літыя дыскі, хэтчбэк, шэра-зялёны, 6600 у.а. Т. (8-029) 5078439.*

• Рэно Сцэнік, 1999 г.в., 1,9 ДТІ на запчасткі, дыскі літыя R 15. Т. Вэлком (8-044) 6653394.*

• Сітраэн Берлінга, 2001 г.в. на запчасткі. Т. МТС (8-033) 6653394.*

• ФВ Гольф 5, 1,4 Б, хэтчбэк, 5 дзвярэй. Т. (8-029) 6850358.

• ФВ Пасат, 1986 г.в., 1,8 Б, універсал, 850 у.а., дыскі R 14. Т. МТС (8-029) 7763394.*

• ФВ Пасат, 1989 г.в., універсал, 1,6 карбюратар. Ёсць невялікія нюансы па кузаве, зняты з уліку. Т. (8-025) 6066774.

• Форд Транзіт, 1994 г.в., 2,5 Д, грузавы, на поўным ходу, можна на запчасткі, 1500 у.а. Т. (8-029) 6575486.*

• Запчасткі да а/м ФВ Джэта, 1,6 бензін. Т. (8-029) 6809579.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, МОЛДЫНГІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-044) 7640814.*

### КУПЛЮ

• А/м іншамарку да 2000 у.а., можна аварыйную, з праблемамі. Т. (8-029) 7088846.*

• А/м іншамарку ў любым стане. Т. (8-029) 6544347, (8-029) 5036715.*

• А/м легкавы, мінівэн, джып, у любым стане, хутка. Т. (8-044) 4727990.*

• А/м у любым стане, можна аварыйны ці бус. Т. (8-029) 6703397.*

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591 |
| Ашмяны | - 01593 |
| Валожын | - 01772 |
| Вілейка | - 01771 |
| Маладзечна | - 0176 |
| Мядзел | - 01797 |
| Смаргонь | - 01592 |

• **А/М У ЛЮБЫМ СТАНЕ. ДОРАГА! Т. (8-044) 7601222.**

• А/м 1985-2012 г.г.в. **ЛЕГКАВЫ** ці **БУС** у любым стане. Т. (8-033) 6008152.*

• А/м, можна з праблемамі, разгледжу ўсе варыянты. Т. (8-044) 5401796.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Гагарына, 12, 29,7 кв.м, 18000 у.а., торг. Т. (8-029) 5533502.

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панэльнага дома, 38,1/ 17,5/ 8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6758773.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул.1 Мая, 3 паверх 4-павярховага цаглянага дома (хрушчоўка), агульная плошча 42,4. Т. (8-033) 3829775, (8-029) 7792181.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул.Гагарына, 12. Т. (8-029) 3672399.*

• 2-пакаёвая кватэра Ў Вілейцы. Т. (8-01771) 32471, (8-029) 2716616.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5677661.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, цэнтр, новы добры рамонт, 50 кв.м, 46500 у.а. Т. (8-029) 9820207.

• 2-пакаёвая кватэра ў п.Беразінскае, 17 км ад Маладзечна, рамонт, зямельны участак, 19900 у.а. ці абмен. Т. (8-044) 7601222.

• 3-пакаёвая кватэра ў в.Любань, Вілейскі р-н. Т. (8-029) 5602540, (8-029) 3668238.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Лебедзеўская, 17-65, 8 паверх, агульная плошча 66,5 кв.м, тэрмінова. Т. (8-0176) 706047, (8-029) 3095770.*

• Дом у Вілейцы, 2009 г.пабудовы, жылы, з усімі выгодамі, 68000 у.а. Т. (8-029) 2689778.

• Паўдома ў Маладзечне, рамонт, камунікацыі, 21500 у.а. ці абмен. Т. (8-029) 5531823.

• Гараж у ГБК-14 у Маладзечне. Т. (8-029) 5767678, (8-029) 5551598.

• Гараж у ГБК-1, Вілейка. Т. (8-029) 9218536.*

• Гараж у ГБК-12, склеп, яма. Т. (8-029) 6553816.*

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*

• Гараж у ГБК-21 (высокі) 6х4х3,4, склеп па перыметры h=2,8. Т. (8-033) 6338153.

• Кіёск, прыпынак ў Вілейцы, 1500 у.а. Т. (8-029) 5646180.

### КУПЛЮ

• Участак для будаўніцтва дома, недабудаваны дом у Маладзечне або прыгарадзе. Т. (8-029) 6262756, 2505060.*

### ЗДАМ

www.kdv.by
Квартиры для Вас
ПП «Кватэры для Вас». УНП 490697092
Здаюцца **1-2-3-пакаёвыя кватэры**. Пасутачна. Камандзіраваным прадаставім справаздачныя дакументы. Ф/а любая. Размесцім гасцей. Магчымае браніраванне. Працуем па РБ.
**Тэл. (8-029) 371-11-10**

• Памяшканне ў арэнду ў Вілейцы ў будынку магазіна, асобны ўваход. Т. (8-029) 5551515.

• Памяшканне ў арэнду ў гарадскім парку 170 м2 і ў цэнтры 32 м2 у Маладзечне. Т. (8-029) 5551515.

### МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы з даплатай. Т. (8-029) 5012601.*

### НАЙМУ

• Дом ці кватэру на працяглы тэрмін у Маладзечне. Т. (8-029) 1567745.

• Кватэру для маладой дзяўчыны. Т. (8-029) 3635587.*

• 1-2 пакаёвую кватэру для маладой сям'і з двума дзецьмі, тэрмінова. Т. (8-025) 9428511.

• 1-пакаёвую кватэру на працяглы тэрмін для маладой сям'і без дзяцей. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т. (8-033) 6694696.*

• 1-2-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна для маладой сям'і (ёсць дзіця), пажадана са свежым рамонтам, на доўгі час. Добрыя гаспадары, гарантуем чысціню і своечасовую аплату. Т. (8-029) 5777020, (8-033) 6612108.*

• 1-2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы для маладой сям'і. Т. (8-029) 2792544.

## РОЗНАЕ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валыніца, 12, 2-паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• "**МІЛЭДЗІ**" – вясельныя ўбранні. Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Віленская, 12 (атэльє "Бярозка"). ІП Казлоўская Т.І. УНП 690154367. Т. (8-0176) 777382, (8-029) 3677382, (8-029) 2727483.*

• **"НАДЗЕЯ" –** вясельныя, вячэрнія, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №63. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-029) 3024418.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• МАЗ, самазвал 10 т; пясок, гравій, ПГС, раствор, бетон, вываз смецця. ІП Сушко А.А. УНП 690690644. Т. (8-029) 7588449 МТС, (8-029) 3385358 Вэлком.*

• Мерседэс 809, ГП, 5т, 30 куб.м, тэнт, санпашпарт, па РБ. ІП Лавар А.А. УНП 690388223. Т. (8-029) 1343052, (8-029) 5686412.*

• **IVECO**, бартавы, тэнтаваны, да 4 т, 23 куб.м, усе віды загрузак, РБ, РФ. ІП Хруцкі А.П. УНП 691297090. Т. (8-033) 6666687, (8-029) 5777020.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АЎТАЭЛЕКТРЫК**. Камп'ютарная дыягностыка. Устаноўка сігналізацыі, рамонт электраабсталявання. УНП 690383566. ІП Бандарэнка А.К. Т. (8-029) 5717325.*

• Выраб электрашафы па індывідуальных заказах. Рамонт, мантаж, наладка. ІП Харлановіч В.Л. УНП 691501978. Т. (8-029) 1222116.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамога напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741, (8-029) 7068002, з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа.*

• Насціланне падлогі ўсіх відаў, работа з вагонкай і іншыя аддзелачныя работы. ІП Петрашкевіч М.М. УНП 691401071. Т. (8-029) 1113493.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, АТЛАНТ, ARDO, CANDY, WHIRLPOOL, ZANUSSI, ELEKTROLUX і інш. ІП Аксёнаў В.Р. УНП 590339676. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 3760789.*

• **РЫТУАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ**. Паслугі катафалка. Капанне магіл. Рытуальны ліфт. ІП Паплаўскі Я.Л. УНП 691399203. Т. (8-029) 7728328, (8-029) 1728328.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння (фігуркі з шарыкаў, мыльных бурбалкі) і іншае. Вядучы на вяселле, карпаратывы, юбілеі. ІП Канановіч І.Е., УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

• **ЭЛЕКТРАМАНТАЖНЫЯ** работы, штрабленне з пыласосам, гарантыйнае абслугоўванне. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. www.electroteam.by. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.

## ПАСЛУГІ

### ПРАДАЕЦЦА

<u>Будматэрыялы, сантэхніка</u>

• Еўравагонка (лісцёвая, сасновая), піламатэрыялы. Т. (8-029) 6954737.*

**СТО "Выбор-Сервис"**
Ремонт подвески. Замена ремня ГРМ. Замена сцепления
Помощь в ремонте рулевых реек, турбин
Экспресс-замена масла (широкий выбор масел и фильтров)
Компьютерный стенд развал-схождения
Компьютерная диагностика. Бесконтактная автомойка.
Молодечно, В. Гастинец, 143Б
Тел. (8-0176) 74-54-66, (8-029) 571-76-67
ЧП "Выбор-Сервис" УНП 190794934

**СТО**
- Замена ГРМ, сцепления
- Диагностика ходовой
- Ремонт ходовой
- Ремонт глушителя
- Развал-схождение
- Шиномонтаж

Тел. в Молодечно **75-75-72**, **(029) 876-51-17, (029) 335-48-04, (029) 64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных
ООО "Авто-Мотор-Плюс". УНП 690552830

**СТО**
- Полная компьютерная диагностика автомобилей,
- Снятие ошибок и сервисных интервалов
- Ремонт и замена электрических систем
- Проверка и регулировка СО, СН
- Замена ремней ГРМ
- Заправка и ремонт КОНДИЦИОНЕРОВ
- Установка сигнализаций

МТС **8-029 7799327**
Vel **8-044 7419183**
ОДО "Игл" УНП 690603198

**СТО «АртАлексСервис»**
**для легковых авто и микроавтобусов импортного и отечественного пр-ва**
✦ **РЕМОНТ двигателей, подвесок, тормозных систем, сцепления, механических коробок передач, АКПП, глушителей, задних балок французских авто**
✦ **ЗАМЕНА масла, ремней ГРМ**
✦ **РАЗВАЛ-СХОЖДЕНИЕ**
**Молодечно, Нагорная, 4Б** (р-н гормолзавода)
МТС **(029) 766-56-99**
Velcom **(044) 766-56-99**
**(0176) 744-295**
Нал./безнал. расчет, гарантия
**АВТОЗАПЧАСТИ в наличии и под заказ**
**Наличный и безналичный расчёт**
**Тел. МТС (029) 566-55-74, Velcom (044) 566-55-74, (0176) 744-295**
ЧП «АртАлексСервис». УНП 690063270

**МАГАЗИН АВТОМИР**
**АВТОЗАПЧАСТИ**
АВТОЛАМПОЧКИ
АККУМУЛЯТОРЫ
АКСЕССУАРЫ
АВТОШИНЫ
АВТОХИМИЯ
ПОДВЕСКА
ФИЛЬТРЫ
МАСЛА
и многое другое
**РАБОТАЕМ 9[00] - 19[00] БЕЗ ОБЕДА**
**НОВЫЕ И Б/У В НАЛИЧИИ И ПОД ЗАКАЗ – СЕГОДНЯ НА СЕГОДНЯ**
**МОЛОДЕЧНО, УЛ. КОСМОНАВТОВ, 8**
(общежитие, вход со стор. стоянки)
**(01773) 6-99-11**
**(029) 6158468**
**(029) 2639702**
Лиц. №2150 Молодечно
ЧП "Автомир-Т". УНП 690639321

## УДЗЯЧНАСЦЬ

*У нашу сям'ю прыйшло вялікае гора. Пайшла з жыцця дарагая і усімі намі любімая наша матуля, бабуля, прабабуля Аляксандра Мікалаеўна Нарэйка. Выказваем шчырую ўдзячнасць святару храма прападобнай Марыі Егіпецкай ў Вілейцы айцу Дзмітрыю, Ірыне Петрашэвіч, калегам, работнікам КУП "Вілейская ЖКГ", родным, сябрам, суседзям і ўсім тым, хто прыйшоў да нас на дапамогу ў цяжкую хвіліну і аказаў маральную і матэрыяльную падтрымку. Нізкі паклон вам, добрыя людзі! Няхай беражэ вас і вашы сем'і Гасподзь.*

**Сям'я Нарэйкі.**

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце RH.by*

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

НАШЫ ГРОШЫ

# "Белтэлекам" другі раз за месяц павышае тарыфы

**РУП "Белтэлекам" з 18 студзеня павышае кошт паслуг byfly і інтэрактыўнага тэлебачання Zala.**

Кошты на паслугі прадастаўлення доступу ў Інтэрнэт павялічацца ў сярэднім на 9,7%. Інтэрактыўнае тэлебачанне падаражэе ў сярэднім на 10%. Акрамя таго, у сярэднім на 10% павысяцца расцэнкі на званкі з гарадскіх тэлефонаў на нумары абанентаў сотавых апаратараў.

Таксама падаражэюць дадатковыя паслугі мясцовай тэлефоннай сувязі, даведачна-інфармацыйныя паслугі, іншыя.

Павышэнне тарыфаў нацыянальны апаратар электрасувязі тлумачыць неабходнасцю мадэрнізацыі сеткі, набыцця сучаснага абсталявання, распрацоўкі найноўшых тэхнічных рашэнняў, што неабходна для далейшага развіцця тэлекамунікацыйных тэхналогій і забеспячэння высокай якасці паслуг.

У студзені РУП "Белтэлекам" ужо падвышаў тарыфы. З 1 студзеня ўступілі ў сілу змяненні і дапаўненні ў Падатковы кодэкс Беларусі. Паслугі сувязі, якія аказваюцца фізічным асобам, сталі абкладацца падаткам на дабаўленую вартасць. У сувязі з гэтым кампанія падвысіла на 20% кошт паслуг сувязі для фізічных асоб.

**Паводле БЕЛТА.**

# Рэспубліка мастацтва пад аховай анёла

**ВІЛЬНЯ. З урокаў геаграфіі многія памятаюць, што існуюць карлікавыя дзяржавы.**

Так, у Ліхтэнштэйне ці Андоры колькасць жыхароў меншая, чым у Маладзечне. Але як наконт асобнай рэспублікі памерам у адзін гарадскі квартал?

Менавіта такой дзяржавай і з'яўляецца Рэспубліка Зарэчча (па-літоўску – Ужупіс), якая размясцілася недалёка ад старога горада ў Вільні. І няхай рэспубліку на афіцыйным узроўні не прызнала ніводная краіна свету, гэта не замінае жыхарам Зарэчча называць сябе зарэчанцамі і сустракаць шматлікіх турыстаў.


Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Анёл – абаронца Ужупіса, увасабляе мастацкую свабоду гэтага месца.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Знак на ўваходзе ў Зарэчча. На тэрыторыю рэспублікі можна ўваходзіць толькі з усмешкай. Абмежаванне хуткасці – 20 кіламетраў у гадзіну. У рэспубліцы жывуць творчыя людзі, і стаіць яна на беразе ракі.

## Творчыя людзі ў творчым асяроддзі

Незалежная дзяржава існуе ўжо 15 гадоў. Некалі закінуты раён горада быў пад пагрозай руйнавання. Выратавалі яго неабыякавыя людзі – мастакі, артысты, пісьменнікі. Яны аблюбавалі Ужупіс і ўрэшце выкупілі яго ў гарадскога самакіравання.

Адарванасць рэспублікі ад навакольнага горада відаць няўзброеным вокам: старыя дамы не маюць каналізацыі, таму часта можна пабачыць прыбіральні ў дварах.

Для таго, каб патрапіць ва Ужупіс, трэба ўсяго толькі прайсці па мосціку праз рэчку Вялейка, якая аддзяляе Зарэчча ад Старой Вільні. Такая натуральная мяжа насамрэч стварае ўражанне адасобленасці Ужупіса ад горада.

За гады незалежнасці Рэспубліка Зарэчча займела сваю канстытуцыю, сцяг, прэзідэнта, урад, міністэрствы ўнутраных і замежных спраў, а таксама ўласнае войска. Складаецца яно з 12-і жаўнераў. Сапраўдны, а не жартаўлівы дзень незалежнасці рэспубліка святкуе 1 красавіка.

Сцяг Ужупіса – белая далонь з колам у цэнтры. У залежнасці ад часу года ў коле з'яўляецца асенні лісток, зімовая калядная зорка, вясенняя птушка альбо летняя кветка.

Прэзідэнт рэспублікі сёння – Ромас Лілейкас, літоўскі рэжысёр, паэт і музыка. Аб тэрмінах свайго кіравання ён сам дакладна нічога не ведае – кажа, што будзе займаць пасаду да таго часу, пакуль жыхары Зарэчча не супраць.

Аб тым, якім чынам гэта можа атрымацца, у праграме не гаворыцца. Але самі зарэчанцы не выключаюць такой магчымасці.

**Міністэрства замежных спраў Ужупіса мае ў сваёй праграме цікавы пункт: далучэнне да Зарэчча Рэспублікі Беларусь.**

– Цягам гісторыі Зарэчча доўга было ускраінай горада, – кажа вілянчук **Марыюш Антановіч**. – Ужупісу заўсёды было цяжка інтэгравацца з Вільняй. Цяпер жа Зарэчча вядомае сваёй творчай атмасферай. Яно вельмі рознае само па сабе, таму і прымае тых, хто таксама хоча быць адметным. Менавіта таму мне яно вельмі падабаецца.

## Што наведаць у Зарэччы?

Турысты спяшаюцца ва Ужупіс, прыцягнутыя яго незалежнасцю і багемнасцю. Сапраўды, Зарэчча запамінаецца незвычайнымі малюнкамі на фасадах дамоў, дзіўнымі скульптурамі, утульнымі кавярнямі і галерэямі.

– Зайсці ў Зарэчча – вельмі добры спосаб збегчы ад вялікага горада, – заўважае Марыюш. – Гэта крыху парадаксальна, бо Зарэчча знаходзіцца амаль у цэнтры Вільні. Тут можна паглыбіцца ў свае думкі альбо вельмі душэўна паразмаўляць з лепшымі сябрамі. Атмасфера гэтаму спрыяе. Я б не раіў хадзіць у нейкія канкрэтныя месцы. Каб адчуць Зарэчча, трэба пашпацыраваць уздоўж Вялейкі і па вулачках квартала.

Добра знаёмая для турыстаў скульптура анёла з трубой на цэнтральнай плошчы Ужупіса. Яна была ўсталяваная ў 2002 годзе і з таго часу з'яўляецца сімвалам зарэчанскай рэспублікі. Каля анёла вельмі зручна сустракацца тым, хто не вельмі добра ведае горад. Тут жа падчас зімовых святаў стаіць галоўная калядная ёлка.

Ёсць у Зарэччы і сувенірныя крамы з сімволікай рэспублікі. Яны карыстаюцца папулярнасцю ў турыстаў: пабыўшы ў сталіцы Літвы можна прывесці падарункі быццам бы з дзвюх розных мясцін – і Вільні, і Ужупіса.

Незалежная частка Вільні багатая на выставачныя пляцоўкі і майстэрні. Без іх не было б знакамітай творчай атмасферы Зарэчча.

– Я жыву ў Вільні толькі трэці год, – кажа літоўка **Юргіта Стадаліене**. – Але пра атмасферу мастацтва і натхнення Ужупіса я чула, нават жывучы ў Коўне. Тут кожны дом і вулачка маюць сваю непаўторную гісторыю. Тут не бывае сумна, заўсёды ёсць канцэрт ці выстава, якія можна наведаць.

## Зарэчча і крымінал – ці шмат ў іх агульнага?

Як паказвае ўласны досвед, на вуліцах Рэспублікі Зарэчча не заўсёды бывае спакойна. Аднойчы, ідучы з аўтобуснага прыпынку дадому, я пазбавілася мабільнага тэлефона. На пустой вуліцы мужчына запытаўся колькі часу. Як толькі я дастала з кішэні тэлефон і паглядзела на экран, мужчына выхапіў трубку з рук і пабег. Такі выпадак вельмі напалохаў і абурыў.

Звярнуўшыся па дапамогу на рэцэпцыю аднаго з гатэляў, я пачула ад літоўкі:

– Вам яшчэ вельмі пашанцавала, што засталіся з пашпартам і грашыма! Як толькі вы дадумаліся ісці па Ужупісе ўвечары, ды яшчэ і адна?!

На пытанне, ці часта тут здараецца нешта падобнае, літоўка адказала, што Зарэчча ніяк нельга назваць спакойным раёнам горада. Яна працуе тут ужо год, і за гэты час мой выпадак – далёка не першы.

Вядома, падобныя сітуацыі здараюцца ў кожным горадзе. Наведваючы Зарэчча цяпер, я ўсё роўна не атаясамліваю яго з крымінальнай часткай Вільні. Атмасфера вузкіх падсвечаных вулачак адаганяе жахлівыя думкі прэч.

– Я таксама не аднойчы чуў розныя крымінальныя гісторыі з Зарэчча, – кажа Марыюш. – Але сам ніколі не меў там ніякіх праблем. Я ведаю ў Вільні куды больш небяспечныя раёны, чым Ужупіс, якія варта назваць самай крымінальнай часткай горада.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

## Канстытуцыя Зарэчча: "Чалавек мае права быць шчаслівым"

Галоўны прававы дакумент рэспублікі можа пабачыць кожны ахвотны. Канстытуцыя складаецца з 38 артыкулаў. Яе тэкст перакладзены больш чым на 20 моў і кожны з перакладаў нанесены на шыльду. Сцяна з шыльдамі стаіць недалёка ад Вялейкі. Сярод асноўных моў перакладу ў шэрагу з літоўскай, англійскай і французскай вылучаецца беларуская. Аўтар перакладу – фатограф Андранік Антанян.

1. Чалавек мае права жыць побач з Вялейкай, а Вялейка – цячы каля чалавека.
2. Чалавек мае права на гарачую ваду, ацяпленне зімою і чарапічны дах.
3. Чалавек мае права памерці, але не абавязаны.
4. Чалавек мае права на памылкі.
5. Чалавек мае права быць адзіным і непаўторным.
6. Чалавек мае права любіць.
7. Чалавек можа быць нялюбым, але гэта неабавязкова.
8. Чалавек мае права не быць знакамітым і вядомым.
9. Чалавек мае права ленавацца альбо нічога не рабіць.
10. Чалавек мае права любіць і даглядаць котку.
11. Чалавек мае права руліцца пра сабаку да канца дзён аднаго з іх.
12. Сабака мае права быць сабакам.
13. Котка не абавязана любіць свайго гаспадара, але ў цяжкую хвіліну мусіць прыйсці яму на дапамогу.
14. Чалавек мае права часам не ведаць, ці мае ён абавязкі.
15. Чалавек мае права сумнявацца, але гэта не абавязак.
16. Чалавек мае права быць шчаслівым.
17. Чалавек мае права быць нешчаслівым.
18. Чалавек мае права маўчаць.
19. Чалавек мае права верыць.
20. Чалавек не мае права чыніць гвалт.
21. Чалавек мае права ўсведамляць сваю драбнату і веліч.
22. Чалавек не мае права квапіцца на вечнасць.
23. Чалавек мае права разумець.
24. Чалавек мае права нічога не разумець.
25. Чалавек мае права быць розных нацыянальнасцяў.
26. Чалавек мае права святкаваць або не святкаваць свой дзень нараджэння.
27. Чалавек абавязаны прыгадаць сваё імя.
28. Чалавек мае права дзяліцца тым, што мае.
29. Чалавек не мае права дзяліцца тым, чаго не мае.
30. Чалавек мае права мець братоў, сясцёр і бацькоў.
31. Чалавек можа быць свабодным.
32. Чалавек адказны за сваю свабоду.
33. Чалавек мае права плакаць.
34. Чалавек мае права быць незразумелым.
35. Ніхто не мае права зрабіць іншага вінаватым.
36. Чалавек мае права быць асаблівым.
37. Чалавек мае права не мець аніякіх правоў.
38. Чалавек мае права не баяцца.

- **Не перамагай**
- **Не бараніся**
- **Не здавайся**

ЮБІЛЕІ

# Ільянскай школе – 150 гадоў

*Працяг. Пачатак у №№43, 44, 45, 46, 47, 48, 49, 50, 51.*

**ВІЛЕЙКА. Ільянскай сярэдняй школе імя Адама Грымацэ 27 кастрычніка споўнілася 150 гадоў.**



Фота забяспечана Уладзімірам КАЖАМЯКАЙ.

**Восіп Ігнатавіч Завадскі са сваімі вучнямі 3-га класа.**

Восіп Ігнатавіч Завадскі ў 1906 годзе працаваў настаўнікам народнага вучылішча ў вёсцы Іжа Вілейскага раёна, а затым у Шклейнікоўскім (Мядзельскага раёна) і Залескім (Вілейскага раёна) народных вучылішчах. Пры паляках працаваць у школе яму не дазволілі, таму мусіў займацца спачатку сельскай гаспадаркай у Новай Гуце, а потым набыў у Ілі ўласную краму.

У 1939 годзе Вілейскі абласны аддзел народнай адукацыі прызначыў Восіпа Ігнатавіча настаўнікам 1-4 класаў Ільянскай школы. У перыяд нямецкай акупацыі знаходзіўся ў Ілі, працаваў у школе і на педкурсах у якасці выкладчыка. Пасля вайны быў арыштаваны і вывезены, знаходзіўся пад следствам, але быў апраўданы і вярнуўся дамоў у Ілью, працаваў тут у школе настаўнікам пачатковых класаў.

Быў здольным настаўнікам, яго любілі вучні. У школе захаваліся ўспаміны, напісаныя рукой Восіпа Ігнатавіча, дзе ён, між іншым, адзначае, што Ільянская воласць была створаная пасля рэвалюцыі 1905 года, а да гэтага Ілья ўваходзіла ў склад Вязынскай воласці, што яго настаўнікам у школе быў Іван Восіпавіч Харлап і што тады ў Ільянскім народным вучылішчы працавалі настаўнікамі Зубкоўскі, Крамарэнка з Вілейкі, Міхаіл Трубач і Іван Трубач з Куранца.

Пры гэтым Восіп Ігнатавіч сцвярджае, што народнае вучылішча ў Ілі было адкрытае яшчэ да 1860 года. Можа, ён памыліўся? Але ўсё магло і быць: магла ж існаваць, напрыклад, прыватная школа для прывілеяваных класаў (шляхты). Бо, як сцвярджаюць гісторыкі, яшчэ ў 16 стагоддзі "школы можна было заснуваць каму заўгодна і якія заўгодна". Але толькі не для ніжэйшых пластоў грамадства.

У гэтай сувязі нагадаем, што, напрыклад, у Слуцку, уладальнікамі якога былі князі Радзівілы, з канца 16 стагоддзя знаходзілася пратэстанцкая гімназія. Слуцкая гімназія дзейнічала да 1917 года і была вядучым цэнтрам школьнай адукацыі цэнтральнай Беларусі. У 16 стагоддзі езуіты заснавалі калегіумы (школы) на рускім грунце ў гарадах: Полацку (1585 год), Нясвіжы (1586 год), Оршы (1616 год), Берасці (1623 год), у Менску (1625 год), Віцебску (1648 год).

Вядомыя прозвішчы настаўнікаў, якія пры немцах вучылі дзяцей у Ільянскай школе: Іосіф Мікалаевіч Курац, Марыя Мікітаўна Саракалетава, Пётр Львовіч Саракалетаў, Хадынскі, Сільвестраў, Пётр Маркавіч Уладыка, Ларыса Дзмітрыеўна Уладыка (Альшэўская).

Сведкі яшчэ казалі, што і ў суровыя гады ваеннага ліхалецця ільянскія школьнікі і іх настаўнікі па традыцыі арганізоўвалі мастацкую самадзейнасць, з канцэртамі выступалі ў клубе і на вуліцы на сцэне, зробленай каля базарнай плошчы (там, дзе цяпер знаходзіцца будынак пошты), і ўсім тады асабліва запомніліся выступленні настаўніка Леаніда Ігнатавіча Марцыёнкі, які па-мастацку расказваў вершы на беларускай мове.

### Школы ва ўмовах акупацыі

Трэба дадаць, што ў падручніку "Гісторыя педагогікі" апісваецца праца школ Беларусі ва ўмовах акупацыі.

Сцвярджаецца, што фашысты сапраўды імкнуліся стварыць так званыя "народныя" пачатковыя школы і старанна ўкаранялі ў школьнае жыццё свае парадкі. У гэтых школах настаўнікі павінны былі перад заняткамі трыццаць хвілін праводзіць з вучнямі гутаркі аб "новым парадку", аб вялікай Германіі і расказваць біяграфію Гітлера.

Вялікая ўвага надавалася вывучэнню нямецкай мовы і Закона Божага. Настаўнікам дазвалялася прымяняць фізічнае пакаранне.

Сутнасцю школьнай палітыкі таго часу было анямечванне беларускай моладзі, хаця, як напісана ў падручніку, "некаторыя цяперашнія гісторыкі спрабуюць растлумачыць гэта як клопат аб дзецях". Савецкія людзі супраціўляліся гітлераўскай "школьнай палітыцы" паўсюдна і не пускалі дзяцей у школу, за што акупацыйныя ўлады штрафавалі бацькоў. Да лета 1943 года "народныя" школы перасталі існаваць.

Яшчэ гаворыцца, што насуперак захопнікам некаторыя настаўнікі і проста адукаваныя людзі арганізоўвалі тайнае навучанне дзяцей у вёсках. І насельніцтва актыўна падтрымлівала гэтыя школы. Яны былі папулярныя, як сказана ў кнізе, на тэрыторыі Поразаўскага раёна (Гродзенская вобласць), там працавала, па няпоўных дадзеных, 20 тайных школ.

### "Лясныя" школы

Існавалі яшчэ і "лясныя школы" ў партызанскіх атрадах. Вучоба ў "лясных" школах праходзіла ў вельмі цяжкіх умовах, у цёмных сырых зямлянках, не было падручнікаў, паперы. Пры гэтым дзеці нярэдка ўключаліся ў барацьбу супраць карнікаў, хадзілі на баявыя заданні. Адзначаецца, што разам з дарослымі ў Беларусі змагаліся супраць захопнікаў больш за 50 тысяч піянераў і школьнікаў.

Прачытаўшы гэта, захацелася заглянуць у кнігу "Партызаны Вілейшчыны" (выд. "Беларусь", Мінск, 1970). На 380 старонках гэтай кнігі нідзе не ўспамінаецца пра "лясныя" школы. Можа, яны не існавалі на Вілейшчыне, а можа, аўтары І.Ф.Клімаў і М.Я.Гракаў забыліся пра іх напісаць?

Больш чым верагодна, што дзяцей у партызанскіх атрадах, асабліва ў партызанскіх зонах, сапраўды імкнуліся нейкім чынам вучыць, вядома ж, несістэматычна і прымітыўна, і дзеці, канешне, прымалі ўдзел у барацьбе з ворагам – гэта пацверджаныя і агульнавядомыя факты.

Алімпіяда Іванаўна Казлоўская, якая цяпер жыве ў Ілі, у час вайны жыла з бацькамі ў вёсцы Беражок. Ёй было тады каля дванаццаці гадоў. Школу яна наведвала толькі тры гады, і то пры немцах, але была здольнай вучаніцай і лепш за ўсіх у класе ўмела чытаць і лічыць. Яе бацька, Іван Іванавіч Курац, выконваў заданні партызан, быў сувязным і неаднойчы пасылаў дачку з заданнямі ў Раеўку. Ён клаў у анучу напісаныя на паперы звесткі, закручваў анучу на нагу дачкі, чапляў лазовыя лапці, перавязваў аборамі і добра завязваў іх, каб яны, не дай божа, не развязаліся ў дарозе. Бацька супакойваў дачку, расказваў ёй, як сябе паводзіць, і адпраўляў у Раеўку да дзядзькі Аляксандра Курца, які перадаваў звесткі партызанам.

### Навучанне ў першыя пасляваенныя гады

Першыя пасляваенныя гады былі вельмі цяжкімі ва ўсіх адносінах. Адразу ж пасля вызвалення ў чэрвені 1944 года востра паўстала пытанне: "Як аднавіць работу школ у Ільянскім раёне?" Спатрэбіліся вялікія намаганні многіх людзей.

Вучыць дзяцей трэба было пачынаць неадкладна, і мясцовыя ўлады адразу ж вызначылі будынкі для школ у Ілі і ў вёсках раёна. У Ілі для гэтай мэты зноў выкарысталі драўляныя будынкі.

**Працяг будзе.**
**Уладзімір КАЖАМЯКА.**
**Аўтар просіць чытачоў дасылаць яму водгукі, заўвагі, успаміны з тым, каб іх можна было вакарыстаць у тэксце. Кантакты: 8(033) 327-95-17, 8(01771) 76-367.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## У Мядзеле спынілі дзейнасць вяндлярні

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры супрацоўнікі ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў Дзяржкантролю спынілі дзейнасць міні-завода па вытворчасці вэнджанай рыбы.**

Размяшчаўся ён на адным з падворкаў у Мядзеле. Вугра прывозілі з Браслава. Потым рыбу вэндзілі на падворку, дзе мелася ўсё неабходнае, і прадавалі.

Супрацоўнікі фінансавай міліцыі канфіскавалі больш за трынаццаць кілаграмаў вэнджанага вугра, рынкавы кошт якога ацэнены ў 12 мільёнаў рублёў. Канфіскавана і абсталяванне.

Матэрыялы на гаспадара вяндлярні перададзеныя ў інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах для складання пратакола за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць. Пагражае яму штраф ад аднаго да пяці мільёнаў рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**

СВЯТЫ

## Па Вілейцы калясілі Дзед Мароз і Снягурка

**ВІЛЕЙКА. Супрацоўнікі Палаца культуры ў перадвнавагоднія дні пераўвасобіліся ў Дзеда Мароза і Снягурку і развозілі падарункі дзецям.**

Працавалі з 25 па 31 снежня. Каштавала гэтая паслуга ў розныя дні 50, 70 і 100 тысяч рублёў. Найдаражэй, вядома, абышоўся бацькам выклік навагодніх персанажаў у апошні дзень года.

Абслугоўвалі адрасы ў Вілейцы і прыгарадных вёсках. Усяго было 62 заказы.

Працавалі дзве брыгады навагодніх персанажаў. У адной – **Леанід Гайчук** і **Марына Заяц**, у другой – **Сяргей Рудніцкі** і **Алена Саўрук**, плюс у кожнай брыгадзе па акампаніятару.

Не толькі таты і мамы паклапаціліся, каб парадаваць сваіх нашчадкаў: заказаў навагоднія візіты для дзяцей сваіх работнікаў Вілейскі рамонтны завод.

Падарункі былі розныя: ад маленькай флэшкі да вялізнай настольнай гульні, што і ў мяшок не ўлазіла. Парадавала супрацоўнікаў Палаца культуры, што некаторыя дзеці самі падрыхтавалі падарунак Дзеду Марозу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Лепшую «Зімовую казку» на Мядзельшчыне стварыў санаторый "Прыазёрны"

**МЯДЗЕЛ. 28 снежня былі падведзеныя вынікі агляду-конкурсу «Зімовая казка» на лепшае святочнае афармленне прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў раёна да Новага года.**

Праходзіў такі агляд-конкурс на Мядзельшчыне ўпершыню.

Адразу ўдзельнікі падавалі заяўкі ў аддзел ідэалагічнай работы Мядзельскага райвыканкама. А потым аб'екты аб'язджала камісія, у якой былі прадстаўнікі розных службаў.

Пры падвядзенні вынікаў улічвалі святочную ілюмінацыю, наяўнасць навагодняй ёлкі, светлавое і тэматычнае афармленне пад'ездаў і прылеглых тэрыторый ды іншыя аспекты.

Перамог у аглядзе-конкурсе "Санаторый "Прыазёрны". На другім месцы – Мядзельскае аграпрамэнерга, на трэцім – Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр "Зубраня".

**Аддзел інфармацыі.**

## На Новы год у нарацкім рэстаране больш было расіян

**МЯДЗЕЛ. У навагоднюю ноч рэстаран культурна-забаўляльнага цэнтра "Азёрны" ў Купе быў цалкам запоўнены. Сустракалі тут свята 70 дарослых і 8 дзяцей.**

Сярод іх пераважалі расіяне. Было іх каля 60 працэнтаў. Гулялі таксама кампаніі з Мінска, Маладзечна, Глыбокага і крыху мясцовых.

Апроч пачастунку ладзіліся шоу-праграма, віншаванне Дзеда Мароза са Снягуркай, цыркавыя нумары, феерверк, іншыя забавы. Каштавала сустрэча Новага года ў нарацкім рэстаране 600 тысяч рублёў з чалавека.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КАЛЯДНАЕ АПАВЯДАННЕ

# Эва Астроўская "Візіт"

**Фрагмент апавядання. Пераклад на беларускую "РГ".**

– Ну і як? – спытала Госька і павесіла яшчэ адзін шарык на ёлку. – Крыху мішуры і, на мой погляд, проста супер.

З экрана плазменнага "Панасоніка", апошняга набытку маці ў залу, набліжаецца прыгожая бландзінка, якая спявае сапрана калядную песню, а ёй фальшывым тэнарам падпявае тата. Няблага ўзяў на грудзі, пакуль маці не было.

– Тата! Кінь раўці і паглядзі на ёлку!

У залу зазірнуў Юрэк. Вочы як у нежывога карпа. Змог усё ж такі абкурыцца.

– Безумоўна, не хапае...

– Чаго?

– Шарыка, – дадаў ён. – І ўрэшце будзе скончаны гэты праклятый калядны цырк.

– Вельмі смешна. Лепш схадзі на балкон разам са сваім дасціпным розумам і як след праветрыся.

– А то што?

– А то смярдзіш траўкай.

– Цешся. Цяпер у цябе ёсць прычына, каб пакпіць.

Пацiснула плячыма. Што яшчэ яна магла зрабіць. Насмуродзіў сваёй траўкай ва ўсім доме.

Юрэку цяпер было ўсё адно. Ён стаў абыякавым да фільмаў, камп'ютара, інтэрнэта, сустрэч. Яго перастаў цікавіць нават стары фотаапарат.

Нарэшце прыйшла маці і з дзвярэй паклікала:

– Госечка! Любая!

– Ужо лячу, матуля!

З усмешкай на ўсе дзесяць балаў па дзесяцібальным шкале. Найвышэйшая ступень радасці: вярнулася любая матуля!

– Быццам сунула галаву пад кран з халоднай вадой, – прашыпела яна.

Маці ў доўгім аж да костачак футры несла вялізную каробку.

– Не адчуваю рук. Занясі ў кухню, толькі прашу цябе, асцярожна.

– Бо торт калядны разваліцца! – крыкнуў Юрэк.

– А яму што?

– Адкуль я ведаю? – Госька аж угнулася пад цяжарам каробкі. Затое якi ад яе ідзе раскошны пах ванілі, міндаля і апельсінавых скурак.

Госька даставала торт вельмі асцярожна, у яе аж слінкі пацяклі. Святочная ежа вельмі смачная: у халадзільніку на блюдзе фаршыраваная цялячая пячонка, белыя лустачкі індычкі, ружовая вяндліна, аранжавы вэнджаны ласось. Стол у зале накрыты па традыцыі на пяць чалавек. Пятае месца для галоднага, якому ў калядны вечар нельга адмовіць у прыёме.



Фота polskieradio.pl.

**За калядным сталом заўсёды пакідаюць вольнае месца для нечаканага госця. Па традыцыі ў святочны вечар нельга нікому адмовіць у прыёме і ежы.**

Сапрана бландзінкі раптоўна змоўкла. Тэнарок бацькі перамяніўся ў перапрашальнае:

– Госечка, клянуся, усяго толькі напарстачак каньячку... Канешне, Госечка, ужо пераапранаюся, мяняю сарочку...

– І штаны! На святочныя! Не забудзь пачысціць зубы шчоткай Орал-бі, якую раяць усе зубныя дактары!

Тупіца, дагуляецца сёння, падумала Госька.

– Сынок, не псуй святочнага настрою.

– Добра, мамка. – Пакорлівасць у голасе брата гарантавала, што на сто працэнтаў ён выкіне ў калядны вечар нейкага коніка. Летась пастрыгся на лысае калена. Маці ледзь інфаркт не схапіў.

– Ялінку ты прыгожа аздобіла, донька. – Маці зайшла на кухню, цокаючы абцасамі па керамічнай падлозе.

Званок у дзверы.

Маці падняла старанна выскубаныя бровы.

Званок яшчэ больш гучны.

– Ахоўнік, як заўсёды, п'яны на Каляды. Нават не зірнуў, калі паркавала свайго "Фіята". І, канешне, прапусціў нейкага жабрака, – абурылася маці.

Званок раз за разам. Усё больш настойліва.

Маці пакапалася ў кашальку.

– Вось табе пяць злотых і настраш паліцыяй.

У дзвярах стаяла старая баба, галава яе была закручаная шарсцяной хусткай. Каля ног, абутых у перадпатопныя боты, стаяў вялікі, пашарпаны чамадан. Госька ўжо хацела ўціснуць бабе пяць злотых, але ў зморшчаным, чырвоным ад марозу, твары ўбачыла нешта знаёмае.

– Бабуля? – запнулася ў задуме.

– Не пазнаць мяне? Так, гэта я, бабуля Франя.

– Мама, бабуля прыехала!

– Якая зноў бабуля? Дай ёй пяць злотых і няхай вымятаецца!

– Бог з табой, гэта ж бабуля Франя!

Маці застукала абцасамі. Прывітальную ўсмешку, у якой расцягнуліся вусны, Юрэк ацаніў бы не больш за балаў пяць.

– Ах, канешне ж! Мама! Караль! Мама прыехала! Мама, трэба было папярэдзіць, Караль бы забраў з вакзала... – Усмешка маці хутка мяняла нумарацыю, ужо сягнула найвышэйшага ўзроўню радасці. – Мая любімая мама! Гося, забяры ў бабулі паліто. Караль, паспяшайся! Любая мама прыехала. Нарэшце ты прыехала! Бачыш: мама прыехала! – Нягледзячы на тоўсты слой пудры на шчаках з'явілася крывавая чырвань.

– Сапраўдная нечаканасць! Цалую ручкі любай матулі!

– Доўбня, – падумала Госька, вешаючы паліто бабулі ў шафу. – Дзеля якога д'ябла нам патрэбная тая бабуля? Гэта проста паскудства, без папярэджання...

– Караль... Чамадан любай бабулі ў прыхожую... Ніяк не магу паверыць уласным вачам: мама! – Усё вярзла маці.

– Прашу, мама, праходзь... Адразу ў нашу залу. Гося, завары бабулі гарачую гарбатку. Абавязкова з лімонам. Божа, мама, ну ты і замерзла, і ўся дрыжыш... Караль бы па цябе прыехаў, такая сёння халадэча...

У той час, калі з залы даносіліся воклічы не проста радасці, а шчасця, у кухню ўваліўся Юрэк.

– Ведаеш, Госька, гэтая старая – гэта наш паважаны продак шляхецкага гербу Сякера?

– Цішэй, балван.

– Вой-вой. Яна ж глухая як пень. – Юрэк адламаў кавалак макавага пірагу, другі. – І не ведаеш, чаму так раптам звалілася як снег на галаву?

– Халера яго ведае, Юрэк. Пакінь у спакою маковец! Халера, я так акурат думаю, што яна нарэшце прадала дом і сад. Старыя проста не маглі гэтага дачакацца. Халера, Юрэк, ты ведаеш, якія гэта грошы?

– Паскудства.

– Дом ля возера. Шэсць пакояў. Два гектары саду. Гэта лепш, чым патрапіць у шасцёрку у таталізатары.

– Паскудства.

– Маковец паскудства? – Госька адламала кавалачак, пакаштавала. – Што ты. Смакоцце.

– І пра цябе, дурніца, кажуць, што разумная.

Бабуля, усеўшыся ў глыбокім крэсле, выглядала так жаласна, маленькай, худзенькай і аднachасова камічнай у старамодным чорнай сукенцы, аздобленай жабо ў вязаных карунках. Галава па-ранейшаму была абвязаная хусткай, толькі больш элегантнай, з нейкага тонենькага чорнага матэрыялу.

– Простая вясковая баба, – падумала сабе Госька...



Архіў "РГ".

**Даведка "РГ". Эва Астроўская.** Польская пісьменніца, якая нарадзілася ў Вілейцы на Беларусі. Памерла 12 ліпеня мінулага года ва ўзросце 74-х гадоў. Аўтарка раманаў, дэтэктываў і баевікоў. Апублікавала больш за трыццаць кніжак для дзяцей і моладзі. Лаўрэат некалькіх прэстыжных прэмій.

МОДА

# У 2013 у модзе плісіроўка і сукенкі ў гарошак

## Моднае адзенне вясна-лета 2013: вяртанне 60-х

**У моду вяртаюцца яркія сукенкі-трапецыі, міні-спадніцы, клетка. Такія фасоны і выразныя малюнкі ствараюць вобраз маленькай стройнай дзяўчынкі.**

Модная фактура адзення вясна-лета 2013 – гэта плісіроўка і сукенкі ў гарошак. Модныя акцэнты: залатыя бліскаўкі.

### Модны колер адзення вясна-лета 2013

Акцэнт на металічны бляск прысутнічае ў многіх дызайнерскіх калекцыях. Гэта могуць быць часткі сукенак, плашчоў, кароткіх накідак ў спалучэнні з авальнымі залатымі, чорнымі акулярамі.

Такі бляск нагадвае нейкую касмічную гісторыю.

### Модны абутак вясна-лета 2013

Што тычыцца абутку, у модзе нарэшце зноў будзе невысокі ўстойлівы абцас і, вядома ж, платформа.

Сучасныя жанчыны хочуць насіць зручны і камфортны, але пры гэтым элегантны абутак. Дызайнеры дагадзілі модніцам, паказаўшы, што туфлі на нізкім абцасе могуць быць не толькі зручнымі, але і вельмі вытанчанымі!

З надыходам цяпла мы міжволі імкнёмся да ўсяго яркага, сакавітага, жыццярадаснага: бэзавы, аранжавы, чырвоны, сіні, жоўты, блакітны, аліўкавы, ружовы, васількавы – прычым як у манахромным выкананні, так і ў арыгінальных кантрасных спалучэннях.

Вельмі модным ў сезоне вясна-лета 2013 будуць адценні металік, такі абутак выглядае святочна і лепш за ўсё падыходзіць для розных урачыстасцяў і вячэрніх мерапрыемстваў.

### Галаўны ўбор

Варта адзначыць, што нашэнне галаўнога ўбору – прыкмета не толькі добрага густу, але і ўважлівага стаўлення да свайго здароўя. У халаднаваты перыяд шапка абараняе ад прастуды, а ў гарачы – ад сонечнага ўдару. І ў любым сезоне галаўны ўбор выратуе вашу прычоску ад гарадскога пылу.

Сёлета ўсё яшчэ актуальныя шырокія "мадамскія" капелюшы, мілённкія трыкатажныя капялюшыкі, а таксама рознакаляровыя берэты, якія часам нагадваюць бабуліны, і кепкі.

### Аксесуары

Бранзалеты ў 2013-м павінны быць буйнымі. Але самыя модныя ў гэтым сезоне – гэта шырокія бранзалеты з тканіны, упрыгожаныя стразамі, камянямі, карункамі. У сезоне вясна 2013 будзе ў модзе мнагаслойнасць ва ўсходнім стылі. Модна будзе насіць адразу шмат невялікіх тонкіх бранзалетаў на адной руцэ.

Увойдуць у моду вясной масіўныя пярсцёнкі, завушніцы і пацеркі, упрыгожаныя рознакаляровымі камянямі або абсыпаныя стразамі.

Піск будучага сезона – чокеры, плоскія каралі, якія шчыльна прылягаюць да шыі.

Вясной моднымі будуць уборы (верхняе адзенне і пінжакі) з рукавамі на тры чвэрці. Да такой вопраткі лепш падбіраць доўгія пальчаткі. Кароткія пальчаткі дызайнеры прапаноўваюць насіць з сукенкамі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота onlady.com.ua.

**Мода клапоціцца аб вас: капялюшыкі – гэта не толькі вельмі стыльны аксесуар, але і карысны для здароўя.**

# Вяз, з вышыні якога бачныя адразу тры гарады

**МАЛАДЗЕЧНА. У Верхніх Талуях ля Маркава сціпла расце адно з самых старых дрэў Павілля -- вяз.**

Гэта некаранаваны чэмпіён сярод вязаў-патрыярхаў на прасторы СНД. Сярод вязаў, зарэгістраваных у нашых суседзяў – у Расіі, Украіне, Латвіі, Літве, – такога вялізнага няма. У Беларусі наогул з зарэгістраваных і запаведных векавых дрэў, якія ахоўвaюцца законам як помнікі прыроды, няма ніводнага вяза.

## Самыя вялікія вязы Еўропы

Памеры вяза з Верхніх Талуёў уражваюць. Абхват ствала амаль сем метраў (на вышыні 1,3 метра – 697 см). Дыяметр – 222 см. Дзевяць галін адыходзяць ад ствала на ўзроўні ад 2 да 2,5 метра.

Вышыня дрэва большая за 25 метраў. Узрост яго – за 400 год, а можа нават 600. Пры добрых умовах вязы жывуць у сярэднім да 400 гадоў і маюць абхват да шасці метраў.

У ствале маецца вялікае дупло, якое стала зацягвацца. Гадоў 40 таму ў дупло лёгка мог залезці чалавек.

Навуковая назва вяза Ulmus (на лаціне) ці Elm (па-англійску). Самы вялікі вяз ў абхваце 4,7 метра і вышынёй 30 метраў расце ў Расіі, у Ленінградскай вобласці. Самы вялікі вяз на Украіне мае абхват 5,2 метра, расце ў Сумскай вобласці.

Самы стары вяз Францыі Elm Biscarrosse быў пасаджаны ў 1350 годзе, ссох у 2010 годзе, а самы стары вяз Грэцыі Metaxades Elm быў пасаджаны ў 1286 годзе і рос да нядаўняга часу.

Наш вяз, верагодна, старэйшы за адзін з самых вялікіх і старых англійскіх вязаў Great Sailing Elm, які меў абхват 6,6 метра. Для брытанцаў вяз з'яўляецца святым дрэвам, татэмам, як для беларусаў груша ды дуб, якія нельга сячы і паліць.

Самы стары вяз Італіі L'Olmo Bello меў абхват 6,3 метра і ўзрост за 400 гадоў. Ён таксама саступае нашаму вязу ля Маркава.

Толькі ў Польшчы, у Камарове, расце вяз яшчэ большых памераў у абхваце.

## Ашаламляльныя краявіды

Стаіць патрыярх у пагорыстай мясцовасці, якая надае пейзажу пэўную маляўнічасць, робячы яе так званай беларускай Швейцарыяй. Асабліва прыгожая гэтая мясцовасць была крыху раней, але і цяпер кожны можа хоць на хвілінку ўявіць сабе гэтыя горы, пакрытыя векавым гаем, дзе расла да неба знакамітая Маркаўская пушча.

Да ствала вяза ў Верхніх Талуях дзеці прыбілі адзін над адным некалькі апалкаў, якія выкарыстоўваюць як драбіну, каб залезці ў "штаб" і далей, на самы верх дрэва. Зверху, у першыя асеннія маразы, калі паветра асабліва чыстае і празрыстае, адкрываюцца далягляды. Адразу, нават без бінокля, бачныя тры гарады – Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, а таксама некалькі мястэчак – Маркава, Лебедзева, Беніца, Залессе, Заскавічы, Турэц-Баяры, Пруды. Па начах свецяцца шылавіцкія вышкі. Побач выкапаная глыбокая сажалка, тутэйшы жыхар Іван Дурэйка ўспамінае, што пасля вайны ў сажалцы лавілі карасёў бучамі і кашамі, сплеценымі з тонкіх галін гэтага ж вяза, бо яны не гніюць у вадзе.

## Дзе вырас вяз

З'явілася гэта дрэўца ў ВКЛ, у Віленскім ваяводстве, ля Маркава, у вёсцы Талуі.

Талуі ўпершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаюцца ў 1616 годзе, калі вяз быў ужо досыць сталы. Вёска Талуі маленькая, але займае вялікую плошчу зямлі. Яна тыповая для Павілля дакалгаснага часу найперш тым, што і цяпер дзеліцца на шмат частак, калі хаты аддаленыя адна ад другой больш чым на паўкіламетра, а то і кіламетр. Тут паспяхова у свой час ішла Сталыпінская рэформа.

Ёсць Талуі Верхнія, дзе цяпер на двух пляцах уздоўж дарогі да лесу знаходзіцца 9 хат (некалі налічвалася 15); Талуі сярэднія – гэта хутары, размешчаныя на схіле пагорка, з якіх засталіся тры; і самая вялікая частка – Талуі Ніжнія, дзе ля падножжа гары, ля рачулкі Гадзея, цяпер налічваецца больш за два дзясяткі хат. Афіцыйна, у сельвыканкаме, у Талуях налічваецца 16 гаспадарак і 22 жыхары, астатнія дачнікі.

З Талуёў, вывучыўшыся, выйшла ў свет многа паважаных працавітых людзей, двое маюць вучоныя званні прафесараў. Адзін з іх, Веніямін Космач, ведае пра Талуі амаль усё, напісаў гістарычную кнігу пра сваю вёску, шукае сродкі на выданне. У Верхніх Талуях з прадвеку жылі людзі з прозвішчамі Асіповічы, Дурэйкі, Боханы, усе праваслаўныя, акрамя прымакоў. Хаваліся на Маркаўскіх могілках.



У Талуях Маладзечанскага раёна расце найстарэйшы вяз СНД.

Фота Міхаіла МІХАЛЕВІЧА.

## Дзе цячэ мёртвая і жывая вада

Талуі Верхія знакамітыя сваім старым вязам, пасекай, сажалкамі і яблыневым садам, а Талуі Ніжнія – крынічкамі з мёртвай і жывой вадой.

Мясцовы жыхар Іван Дурэйка сцвярджае, што першыя пчолы завяліся ў верхнім дупле, ад іх усе раі перасадзіў ў пасеку з калод яшчэ пры Польшы Фама Дурэйка. Пчолы вядуцца дагэтуль, вяз з'яўляецца медaносам, квітнее ў вясну адзін з першых. Вядома ж, мёд з талуйскай пасекі вельмі смачны і гаючы.

Калі ўявіць, што нашаму верхнеталуйскаму вязу ля Маркава 600 гадоў, то гэта значыць, што паўтара стагоддзя ён рос у Вялікім Княстве Літоўскім, больш за два стагоддзі, з 1569 па 1795 год, – у складзе Рэчы Паспалітай. Трохі пабыў пад шведамі. У студзені 1793 Маркава увайшло ў склад Расійскай імперыі, а Талуі засталіся у Ашмянскім павеце Вялікага Княства Літоўскага.

Мяжа пралягла зусім побач, але магутны вяз лёгка і шчодра перакідваў свае "крылатыя арэшкі" ва ўсе напрамкі. Для яго мяжа нічога не вырашала, а толькі вольны вецер і птушкі, якія рассейвалі насенне, каб узышлі ў акрузе маладзенькія дрэўцы. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай вяз апынуўся ў Расіі, каля двух стагоддзяў пражыўшы ў складзе імперыі. Трохі за гэты час пабыў пад французам.

Потым, у 20 стагоддзі, пачаліся самыя крутыя павароты гісторыі – Першая сусветная вайна, рэвалюцыя, акупацыя Кайзераўскай Германіяй, узнікненне БНР, ЛітБел, пасля польская акупацыя, вяртанне у Савецкую Беларусь, другая Рэч Паспалітая, зноў першыя ("тыя") Саветы Беларусі ў складзе СССР, фашысцкая акупацыя, вызваленне. Зноў у СССР да перабудовы і няўдалага путча, і нарэшце суверэнная Беларусь. Атрымалася вельмі стракатая палітра і цікавая гістарычная гірлянда сцягоў і гербаў уладальнікаў тутэйшай зямлі, дзе рос і расце наш верхнеталуйскі вяз ля Маркава.

## Як праязджалі Вялікія князі

Яго малады ствол мог быць лёгка выкарыстаны для дрэўка дзіды ці лука мясцовых рыцараў. Захаваўся ж ён у першую грамадзянскую вайну 1432-1436 гадоў, калі Свідрыгайла Альгердавіч і Жыгімонт Кейстутавіч вялі барацьбу за вялікакняскі трон. Тут, зусім недалёка, паўдня пехатой, у 1433 годзе біліся на Чырвонай валоцы, паміж Капачамі і Груздавам.

З 1476 года Маркава мела статус вялікакняскага каралеўскага двара, цэнтра павета і валасці. У 1493-м уладаром (намеснікам) Маркаўскай валасці быў маршалак Ян Пятровіч, а пасля яго сын – Пётра Яновіч, неаднаразовы удзельнік паходаў Вялікага князя Аляксандра Ягелона ў Маскву. Дык вось, у час яго праўлення ў 1495 годзе, праязджаючы з Масквы ў Вільню, Маркава наведала Вялікая княжна Алена – дачка Іаана Трэцяга Маскоўскага, нявеста Аляксандра Ягелона.

Менавіта ў Маркаве яе сустракалі з багатымі падарункамі сваты – паслы Вялікага князя Літоўскага, у тым ліку славуты гетман князь Канстанцін Астрожскі ды князі Іван і Васіль Глінскія, а з імі чалавек 60. Збоку, меней за гадзіну хады, ад тых знакамітых сватоў яшчэ дзяцюком стаяў наш вяз – ён таксама з'яўляецца маўклівым, але дагэтуль жывым сведкам таго дынастычнага саюза паміж Усходам і Захадам, у знак замацавання заключанага міру ў вайне 1492-1494 гадоў.

У гонар сустрэчы быў пасаджаны малады дубок у Маркаве, які, як і вяз, захаваўся дагэтуль. Два гады таму бура адламала вялізную галіну, якая звалілася на гарод спадарыні Людмілы Асіповіч. Дык Людміла мусіла адрэзаць некалькі вельмі небяспечных сукоў, захаваўшы гістарычны дуб царэўны Алены ў сваім агародзе.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ.**

**Заканчэнне будзе.**

ГІСТОРЫЯ

# Наш край пасля 1812 года




Архіў "РГ".

Ігнат Дамейка – беларускі, польскі і чылійскі навуковец-даследчык, геолаг, мінеролаг. Сустракаўся з ксяндзом Львовічам з Даўгінава. Аўтары літаграфіі (1871) Францішак Тэгаза, Юліян Шубэлер.



Фота dic.academic.ru.

Надмагільны помнік Ігнату Дамейку на галоўных могілках сталіцы Чылі Сант'яга. Ricardo Hevia Kaluf.




Архіў "РГ".

Памятная манета НБ Беларусі, прысвечаная 200-годдзю Ігната Дамейкі.

*Заканчэнне. Пачатак у №№50, 51, 1 (2013 г.).*

**Думаецца, што з цягам часу ўсялякія загадкі будуць прыадкрытыя, і ў той далёкай гісторыі стане менш таямніц.**

## Іншыя філаматы і Вілейшчына

Сустракаўся з Львовічам і дзяліўся ўспамінамі былы філамат Ігнат Дамейка. Ён быў блізкім сябрам Яну Чачоту і Адаму Міцкевічу. Стрыечная сястра Ігната Марыля Верашчака, а пазней графіня Путкамер была каханай Міцкевіча, якую ён уславіў у сваіх вершах і паэмах. Путкамер была таксама сваячкай Тамаша Зана.

Дамейка ўдзельнічаў у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1830-31 гадоў і пасля яго разгрому быў інтэрніраваны за мяжу. Жыў у Францыі, пазней у Чылі, стаўшы тут яе сапраўдным нацыянальным героем, даследчыкам мясцовых прыродных багаццяў, заснавальнікам універсітэта. Імем Дамейкі названы ў Чылі пасёлак і горны хрыбет у Андах, мінерал дамейкіт і г.д.

Прыязджаў да Львовіча ў 1844 годзе і яшчэ адзін філамат Ота Слізень, які затым у сваіх нататках вельмі цёпла ўспамінаў пра тую сустрэчу.

У гэты час у Віленскім універсітэце працуе бібліятэкарам Казімір Контрым (1772-1836), наш зямляк, ураджэнец в.Багданава, грамадскі дзеяч і дзеяч асветы, выдавец і журналіст. Быў адным з арганізатараў літаратурнага згуртавання шубраўцаў (у перакладзе – таварыства гультаёў), з'яўляўся прыхільнікам студэнцкага руху, за што разам з іншымі передавымі выкладчыкамі быў выгнаны з універсітэта.

На Вілейшчыне прайшло ўсё жыццё і творчая дзейнасць вядомага пісьменніка Ігната Ходзькі. У яго спадчынным маёнтку Дзевятні часта бывалі розныя знакамітасці, але асабліва шчыра тут сустракалі яшчэ аднаго філамата, паэта і грамадскага дзеяча Антона Адынца (1804-1885). Справа ў тым, што ён ажаніўся з роднай сястрой жонкі Ігната Ходзькі Соф'яй з роду Мацкевічаў, якія жылі непадалёк у фальварку Рускае Сяло. Яе добра ведаў і шанаваў Адам Міцкевіч і ў яе гонар адну з галоўных гераінь паэмы "Пан Тадэвуш" назваў Зосяй. Такім чынам, жыццёвыя шляхі многіх філаматаў былі звязаныя з Вілейшчынай.

## Царская гвардыя на кватэрах у нашых гарадах і мястэчках

Яшчэ задоўга да паўстання дзекабрыстаў 1825 года тайныя арганізацыі сталі ствараццa і сярод іншых слаёў грамадства. Асабліва цара непакоілі ваенныя. 16 кастрычніка 1820 года адбылося выступленне "гасударавай роты" лейбгвардыі Сямёнаўскага палка супраць жорсткіх адносін да іх свайго камандзіра. Астатнія роты падтрымалі сваіх таварышаў, і ўсе незадаволеныя апынуліся ў петрапаўлаўскай крэпасці. Паводле ўказа цара "мяцежны полк" быў расфарміраваны.

На наступны год Аляксандр І рашыў "правятрыць гвардзейскі душок" і многія палкі сваёй гвардыі адправіў на вучэнні ў Беларусь, якія праходзілі каля Бешанковічаў. У Вілейцы на кантанір-кватэрах 1 кастрычніка 1821 года тэрмінам каля паўгода спыніўся Маскоўскі полк. Штаб палка застаўся ў горадзе, а батальённыя штабы – у Маладзечне, Ільі, Куранцы. Роты, акрамя названых мястэчак, стаялі ў Вязыні, Крывічах, Сосенцы, Гарадку і іншых населеных пунктах. З 27 кастрычніка ад палка ў Мінск прызначаліся каравулы.

Сярод ваеннаслужачых гэтага палка былі і будучыя дзекабрысты Мікалай Ларэр і Міхаіл Нарышкін, які стаў пазней арганізатарам яго Паўночнага аддзялення ў Магілёве.

Ужо тады перадавыя афіцэры, якія сустракаліся паміж сабой, праводзілі падрыхтоўку прыняцця ў члены тайнага таварыства. Яны глыбей пазнаёміліся з жыццём прыгоннага сялянства і прыйшлі да высновы аб неабходнасці глыбокіх перамен у грамадстве.

Вось як пісаў пра Беларусь таго часу яшчэ адзін дзекабрыст Фёдар Глінка: "...Усё тут ёсць, каб прыкласці чалавечую працу і жыць шчасліва, але пакуль у тутэйшых краях пануе жудасная беднасць".

І хутка неабходнасць такіх перамен пяройдзе ў рэаліі.

**Анатоль РОГАЧ.**



**Даведка "РГ".** Анатоль Рогач. Краязнаўца. Нарадзіўся ў в. Каралеўцы на Вілейшчыне 1 чэрвеня 1947 года. Памёр трэцяга сакавіка 2010 года ў Вілейцы. Аўтар шматлікіх публікацый аб гісторыі нашага краю.

КАЛЯНДАР

**11 студзеня.** 125 гадоў з дня нараджэння Язэпа Каранеўскага (1888 – 1937), дзяржаўнага дзеяча Беларусі, правадзейнага члена Інстытута беларускай культуры, рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1929 – 1931 гг.).

***

**13 студзеня.** 420 гадоў з дня смерці (1593) Сымона Буднага, асветніка, філосафа, гісторыка, паэта, дзеяча ВКЛ. Выступаў за ўсебаковае супрацоўніцтва славянскіх народаў, быў прадаўжальнікам традыцый Скарыны. Апошнія гады жыў у Вішневе на Валожыншчыне.

***

**14 студзеня.** 120 гадоў з дня нараджэння Канстанцыі Буйло (сапр. Канстанцыя Антонаўна Калечыц) (1893 – 1986), беларускай паэтэсы, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Пахаваная ў Вішневе Валожынскага раёна.

***

**140 гадоў** таму (1873) як на ўчастку Мінск – Вілейка адкрыўся рух цягнікоў.

***

**160 гадоў** з дня нараджэння Софіі Кавалеўскай (1853 – 1918), беларускай фалькларысткі, этнографа, пісьменніцы. Нарадзілася ў вёсцы Малыя Бакшты, Маладзечанскі раён. Аўтар працы "Вясельная ўрачыстасць у Вілейскім павеце ў ваколіцах Маладзечна і Радашкавіч".

***

**95 гадоў** з дня нараджэння Віктара Анікіна (1918 – 1997), заслужанага архітэктара Беларусі.

***

**90 гадоў** з дня нараджэння Ганны Зелянковай (1923 – 2010), беларускага харавога дырыжора, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**15 студзеня.** 105 гадоў з дня нараджэння Заіра Азгура (1908 – 1995), скульптара, народнага мастака Беларусі, народнага мастака СССР, члена Акадэміі мастацтваў СССР, Героя Сацыялістычнай Працы.

***

**1976 год.** Уведзеная ў эксплуатацыю Вілейска-Мінская водная сістэма. Сістэма каналаў і вадасховішчаў, прызначаная для водазабеспячэння прамысловасці і камунальнай гаспадаркі Мінска.

***

**75 гадоў** з часу стварэння (1938) у Беларусі (пасля ліквідацыі акруг) Мінскай Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Палескай абласцей.

***

**16 студзеня.** 70 гадоў з дня нараджэння (1943) Міколы Чарняўскага (Мікалая Мікалаевіча), беларускага паэта і празаіка.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ВАЛЕЙБОЛ

# Фаварыты не выйгралі




Фота bvf.by

Над сеткай лепшы гулец у складзе мінскага "Будаўніка" Сяргей Бусел (у белай форме).




Фота bvf.by

Некаторыя каманды прыехалі ў Маладзечна загадзя і праводзілі тут трэніроўкі.

**МАЛАДЗЕЧНА. Перад самым Новым годам (28-30 снежня) зала для гульнявых відаў спартыўна-відовішчнага комплексу сабрала мацнейшых валейбалістаў краіны.**

Восем лепшых айчынных камандаў тут, на нейтральнай тэрыторыі, разыгралі Кубак Беларусі. У пятніцу прайшлі чвэрцьфінальныя матчы, у суботу – паўфінальныя, а ў нядзелю – фінал за трэцяе месца і самы галоўны матч, фінал за першае месца.

Каб нашы чытачы лепш арыентаваліся ў падзеях беларускага валейбола, трэба зазначыць, што каманда "Шахцёр" (Салігорск) у рэгулярным чэмпіянаце краіны не выступае, яна далучыцца толькі па вясне падчас рашаючых баталій па сістэме плэй-оф. Пакуль што гэта каманда выступае ў адкрытым чэмпіянаце Расіі, праўда, з'яўляецца там аўтсайдэрам. На розыгрыш Кубка ў Маладзечна гульцы прыехалі і, зразумела, мелі статус фаварытаў.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Металург (Жлобін) | 45 |
| 2. | Будаўнік (Мінск) | 40 |
| 3. | БАТЭ-БДУ (Барысаў) | 33 |
| 4. | Камунальнік (Гродна) | 31 |
| 5. | Магілёўскія львы | 28 |
| 6. | Заходні Буг (Брэст) | 16 |
| 7. | ГВК (Гомель) | 15 |
| 8. | Марка (Віцебск) | 4 |
| 9. | Легіён (Абухава) | 4 |

Дарэчы, у чэмпіянаце Беларусі да сённяшняга дня ўдзельнікі правялі па шаснаццаць матчаў і маюць наступную колькасць ачкоў.

### Маладзечна, дваццаць другі розыгрыш Кубка

На чвэрцьфінальнай стадыі самай напружанай стала гульня паміж барысаўчанамі і гродзенцамі. Справа дайшла да рашаючага пятага сэта. Між іншым, "камунальнікі" выйгралі Кубак у мінулым сезоне і наогул валодалі гэтым трафеем часцей за астатніх – шэсць разоў.

БАТЭ-БДУ – Камунальнік 3:2 (16:25, 25:23, 24:26, 25:19, 16:14).

Шахцёр – ГВК 3:0.

Металург – Магілёўскія львы 3:1.

Будаўнік – Заходні Буг 3:0.

На паўфінальнай стадыі барацьбу за тытул спынілі прадстаўнікі Салігорска. Маладыя барысаўскія валейбалісты ў кожным сэце набіралі на некалькі ачкоў больш.

БАТЭ-БДУ – Шахцёр 3:0 (25:23, 26:24, 25:22).

Будаўнік – Металург 3:1.

Фінал за трэцяе месца. Шахцёр – Металург 3:0.

Фінал за першае месца выдаўся драматычным. Сталічная каманда выступала ў адкрытым чэмпіянаце Расіі ў мінулым сезоне. Пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера **Аляксандра Сінгаеўскага** сабраліся дасведчаныя гульцы. І яны вырвалі перамогу ў апошнім сэце.

Будаўнік – БАТЭ-БДУ 3:2 (22:25, 25:23, 24:26, 25:14, 15:10).

Былі вызначаны лепшыя гульцы турніру. Ім стаў **Аляксей Клямар** з БАТЭ-БДУ. Таксама названы лепшыя гульцы на пазіцыях. Нападаючы – **Уладзімір Жыгмант** з БАТЭ-БДУ, сувязны – **Сяргей Гумянюк** з "Металурга", цэнтральны – **Сяргей Бусел** з "Будаўніка", лібера – **Аляксандр Прушак** з БАТЭ-БДУ.



Сяргей ГАЙКОВІЧ.
E-mail: sm2@tut.by

# Дапамажыце выратаваць чалавека!

## Дыягназ – рак чацвертай стадыі

**Тытулаваная магілёўская футбалістка Святлана Рыжова змагаецца з цяжкай хваробай.**

Беларуская медыцына не дае ёй шанцу, але яе можна выратаваць за мяжой.

Дапамажыце сабраць сродкі на лячэнне Святланы ў Ізраілі, у клініцы Хадаса, дзе б ёй далі шанс на жыццё.

### Рэквізіты

Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў філіяле №700 – г.Магілёў, вул. Першамайская, 71-а; УНП 700007079; МФО 153801536:

- **беларускія рублі** – транзітны рахунак №3819382119371 на дабрачынны рахунак №000002 у аддзяленні №700/70, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунка 02.01.2014

- **еўра** – транзітны рахунак №3819382119443 на дабрачынны рахунак №000004 у аддзяленні №700/70, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунка 02.01.2014

- **расійскія рублі** – транзітны рахунак №3819382119443 на дабрачынны рахунак №000003 у аддзяленні №700/70, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунка 02.01.2014

- **долары ЗША** - транзітны рахунак №3819382119443 на дабрачынны рахунак №000004 у аддзяленні №700/70, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунка 02.01.2014

Прызначэнне плацяжу: Для залічэння на дабрачынны рахунак на імя Рыжовай Тамары Васільеўны, для збору сродкаў на лячэнне дачкі Рыжовай Святланы Анатольеўны.

Перавод грашовых сродкаў на **карт-рахунак БПС-Ашчадбанк**: карта №4138 5620 0748 3510 тэрмін дзеяння да 04/15



**Яндэкс-кашалёк:** 410011694064107

**Кашалёк EasyPay:** 38269983

НАВІНЫ СПОРТУ

## Мядзельскія лыжнікі сталі прызёрамі "Навагодняй ёлкі"

**МЯДЗЕЛ. 28 снежня ў Плешчаніцах адбылося адкрытае першынство мясцовага вучылішча алімпійскага рэзерву па лыжных гонках сярод юнакоў і дзяўчат "Навагодняя ёлка". У спаборніцтвах удзельнічалі лыжнікі Мінскай вобласці.**

У прызёры патрапілі прадстаўнікі Мядзельскай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву. У малодшай узроставай групе сярод дзяўчат другое месца на дыстанцыі адзін кіламетр заняла **Наталля Якаўлева**. У сярэдняй групе таксама "срэбра" ў **Віталіі Івашковай**. Тут працягласць дыстанцыі склала тры кіламетры.

Сярод юнакоў вызначыліся былыя навучэнцы Мядзельскай СДЮШАР **Марат Баран** і **Аляксандр Малько**. Яны на дыстанцыях шэсць кіламетраў занялі трэція месцы адпаведна ў сярэдняй і старэйшай групах.

## Адновяцца гульні чэмпіянату раёна па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ. Пасля амаль месячнага перапынку адновіцца чэмпіянат раёна па міні-футболе.**

12 студзеня, у суботу, на пляцоўцы фізкультурна-аздараўленчага комплексу "Мядзел" пройдуць тры гульні шостага тура. Першымі сустрэнуцца прадстаўнікі райваенкамата і райаддзела ўнутраных спраў.

Потым выявяць лепшыя каманды аддзела па фізкультуры, спорце і турызме і адукацыі. Завершаць гульнявы дзень дружыны Крывіцкага сельсавета і НДЦ "Зубраня".

Усяго ў чэмпіянаце ўдзельнічаюць 14 каманд. Яго гульні завершацца ў сакавіку.

## У турніры перамагла каманда "Буддэталі"

**ВІЛЕЙКА. Напрыканцы снежня ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры "Імпульс" завяршыўся турнір па міні-футболе.**

Працягваўся ён больш за месяц. Удзельнічалі ў турніры 16 камандаў.

У фінале сустрэліся каманды "Буддэталі" і "Вул. Талстога". За дзевяць хвілін да заканчэння матча "Буддэталі" прайгравалі з лікам 0:3 і здолелі не толькі зраўняць лік, але і вырваць перамогу. Канчатковы лік сустрэчы 5:3.

Трэцяе месца заваявалі гульцы "Антэя", якія таксама ва ўпартай барацьбе з лікам 5:4 перайгралі каманду "Першы Беларускі".

Лепшым бамбардзірам турніру стаў **Валерый Губіч** з каманды "Нарачанскія зоры". Ён забіў 36 галоў.

Алесь ВЫСОЦКІ.




Камент-эксперт



Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета


## Чытайце праз тыдзень:

- **Карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" пабывае на першай прэм'еры спектакля "Сямейны партрэт з пабочнай асобай" Сцяпана Лабазёрава. Гэта камедыя ў двух дзеяннях. Чытайце ўражанні ў наступным нумары.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**11 пятніца 19.00**
ПРЭМ'ЕРА. **"СЯМЕЙНЫ ПАРТРЭТ З ПАБОЧНАЙ АСОБАЙ"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*

**12 субота 17.00**
ПРЭМ'ЕРА. **"СЯМЕЙНЫ ПАРТРЭТ З ПАБОЧНАЙ АСОБАЙ"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*

**16 серада 19.00**
**"НА ДРУГІ ДЗЕНЬ СЁМУХІ"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы) *Юры Вута*

Тэатра мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*, тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**13 нядзеля 12.00 " М Е Ч АНЁЛА"** (батлеечныя варыяцыі)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

**РЭПЕРТУАР**
**КУП "Мінаблкінавідэапракат" Маладзечанскі філіял**

Фэнтэзі, прыгоды **"Хобіт. Нечаканае падарожжа"***, 3D 12-13 студзеня – 13:30

Навагодняя камедыя **"3 Новым годам, мамы!"***, 2D 12-17 студзеня – 19:00

Анімацыйная камедыя **"Тры багатыры: На далёкіх берагах"***, 3D 12-13 студзеня – у 12:00 14-17 студзеня – у 17:30

Фэнтэзі, прыгоды **"Змярканне. Сага. Світанак: Частка 2"** **, 2D 12-13, 19 студзеня – у 16:30, 21:00 14-18 студзеня – 21:00

Навагодняя анімацыйная прыгода для ўсёй сям'і **"Снежная каралева"** 0 18 студзеня – 17:00.

Рэмейк агульнанароднай камедыі **"Джэльтэльмены ўдачы!"** ** 18 студзеня – 19:00

0 – без узроставых абмежаванняў
* – дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў
** – дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў

Т. кінатэатра "Радзіма": **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / -1 | | -4 / -4 | | -4 / -5 | | -5 / 5 | |
| | 730 | ↗ 4 | 739 | ← 5 | 738 | ↙ 5 | 742 | ↙ 1 |
| Вільня | -1 / -2 | | -4 / -4 | | -5 / -6 | | -8 / -7 | |
| | 737 | ↑ 3 | 747 | ← 5 | 749 | ↙ 4 | 752 | ← 1 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.26
Захад 17.15
Даўжыня дня 7.39

Усход 9.18
Захад 18.39
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- 13 студзеня – шчадрэц, вечар напярэдадні старога Новага года. Наладжваліся гульні, забавы, варажылі.
- 14 студзеня – Новы год па старым стылі, або Васілле. Завіруха на Васіля – багаты ураджай арэхаў.

## ЗАКОНЫ МЭРФІ Ў КАХАННІ

* Калі мужчына адчыняе дзверы жонцы, значыць, ці гэта новая машына, ці новая жонка.

* Калі жанчына гаворыць мужчыну, што ён самы разумны, значыць, яна разумее, што другога такога дурня яна не знойдзе.

* Жанчына не хлусіць ніколі – яна проста не памятае, што гаварыла хвіліну таму.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ




Фота Ігара МАРОЗА.

**Навагодняя варта на заводзе "Зеніт".**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | | 7 | | | | 1 | |
| 2 | 4 | | | 8 | 5 | | | |
| 5 | 7 | 3 | | | | | | |
| 7 | | | 9 | | | 3 | | 1 |
| | | | | | | | | |
| 9 | | 5 | | | 3 | | | 2 |
| | | | | | | 1 | 6 | 4 |
| | | | 8 | 1 | | | 5 | 3 |
| | 3 | | | | 7 | | 2 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## ГАРАСКОП (11-17 СТУДЗЕНЯ)

**Авен.** Поспех, які спадарожнічае вам, з'яўляецца вынікам нетрадыцыйных поглядаў і падыходаў.

**Цялец.** Вы нават не хочаце прызнацца сабе, што вас непакоіць, і шукаеце віноўнікаў. А прычыну перажывання лёгка ўхіліць – паглядзіце праўдзе ў вочы.

**Блізняты.** Актыўнасць і напорыстасць ў дачыненні да работы заахвочваюцца. Вас чакаюць новыя перспектывы для заваявання вядомасці, упэўненасць у будучыні і дасягненне мэтаў.

**Рак.** Вы можаце абазвесціся апекунамі, якія станўць для вас карыснай апорай. Прыкладзіце намаганні ў сваёй справе, і ўсё пойдзе як па масле.

**Леў.** Харчуйцеся па рэжыме, займайцеся спортам. Цяпер вельмі важна сачыць за сабой, паляпшаць здароўе, знешнасць і ўмацоўваць душу.

**Дзева.** Вам лёс падкіне трохі цяжкасцяў, і толькі вашы незвычайныя інтэлектуальныя здольнасці дапамогуць справіцца. Не пускайце на самацёк тое, на што вы можаце паўплываць.

**Шалі.** Павялічыцца ваш энергетычны патэнцыял, абаянне. Фінансавыя справы палепшацца. Але залішняя занятасць не толькі не пакіне часу, каб радавацца жыццю, але можа негатыўна адбіцца на здароўі.

**Скарпіён.** Прыслухоўвайцеся да парад сяброў і сваякоў. Лёс выведзе вас на правільны шлях, памятаеце, галоўнае – давер.

**Стралец.** Энергія Сусвету падтрымае вашы планы па перамене ладу жыцця. Не дапускайце толькі агрэсіі і злосці.

**Казярог.** Ваша абаянне, мяккасць і неардынарнасць меркаванняў садзейнічаюць прафесійнаму поспеху. Вы будзеце здольныя выклікаць прыхільнасць кагo заўгодна.

**Вадалей.** Не спрабуйце зазірнуць далёка наперад, бо ўсё будзе не зусім так ці зусім не так, як вы хацелі. Але вас чакае...

**Рыбы.** Вам чамусьці захочацца раскошнага жыцця, і гэта стане непераадольнай спакусай. Але калі ў вас з'явіліся такія думкі, то гэта адзін крок да мэты.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6550 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная. № 2 (924) 11.01.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г.
Зак. 9. Падпісана ў друк у 10.00 10.01.2013.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by http://rh.by** Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.